22 мая 2015 | № 20 (437)

Новы час

novychas.info

• КУЛЬТУРА • ГРАМАДСТВА • ЭКАНОМІКА
• ЛЮДЗІ • ПАДЗЕІ • ФАКТЫ

ISSN 2218-2144

Лятаючы рыцар Грамады
стар. 15

3 З ШЫРОКА ЗАПЛЮШЧАНЫМІ ВАЧЫМА

Усе, хто можа, папярэджваюць: Беларусь спаўзае ў крызіс. Пра гэта цвердзяць не толькі МВФ, але і афіцыйныя эканамічныя паказчыкі



4 САМІТ У РЫЗЕ

Саміт Усходняга партнёрства — адзін з прамежкавых этапаў, які магла б скарыстаць Беларусь для далейшага развіцця адносін. Але ж ці скарыстае?

12 ФАКТАР ГАНГАДЗЭ

Год таму ва Украіне фактычна пачаўся перагляд скандальнай справы забітага ў 1999 годзе журналіста Георгія Гангадзэ. Каму і навошта гэта патрэбна?



14 ЗА ПАРОГАМ ПЕРАМОГІ. МДБ СУПРАЦЬ АКАЎЦАЎ

Дзейнасць жаўнераў Арміі Краёвай на тэрыторыі БССР у пасляваенны час да сённяшняга дня выклікае спрэчкі ў беларускім грамадстве

# Чаго чакаць ад Украіны?

## Украіна дамаглася свайго, у Расіі больш няма пярэчанняў



Сяргей ПУЛЬША

З 1 студзеня 2016 года Украіна ўвойдзе ў зону свабоднага гандлю з Еўрасаюзам. Як паведаміў міністр замежных спраў Украіны Павел Клімкін, пасля трохбаковых кансультацый паміж Украінай, Расіяй і ЕС адносна некаторых аспектаў імплементацыі пагаднення аб стварэнні ЗСГ паміж Украінай і Еўрасаюзам.

Клімкін таксама паведаміў, што бліжэйшым часам адбудуцца тэхнічныя кансультацыі па практычных аспектах рэалізацыі ЗСГ, датычныя трох сфер: мытнага адміністравання, тэхнічных бар'ераў у гандлі і санітарных і фітасанітарных мераў.

Такім чынам, з пачатку наступнага года Украіна будзе ў еўрапейскай зоне гандлю. Беларускім уладам таксама трэба звярнуць на гэта ўвагу, бо паўднёвая суседка — наш трэці па значнасці (пасля Расіі і ўсяго ЕС, разам узятага) эканамічны і гандлёвы партнёр. Наш агульны тавараразварот за тры месяцы гэтага года склаў 671 мільён 996,5 тысячы долараў ЗША. Гэта больш, чым тавараразварот Беларусі з Кітаем ($626 мільёнаў 720,2 тысячы). Але калі з Кітаем у нас адмоўнае гандлёвае сальда (то бок, мы купляем у іх больш, чым туды прадаём на $334 мільёны), то з Украінай — сітуацыя адваротная. За тры месяцы мы зарабілі на гандлі з ёй $310 мільёнаў.

У 2014 годзе Беларусь была адзінай краінай, з якой Украіна павялічыла імпарт тавараў — на 7,4%. З усімі астатнімі (у тым ліку еўрапейскімі) краінамі яе імпарт знізіўся, што яшчэ раз падкрэслівае важнасць нашага партнёрства.

Таму ўваходжанне Украіны ў ЗСГ з ЕС нас не можа не турбаваць. Змены ў правілах гульні з нашай суседкай могуць адбіцца на вельмі прыбытковым і прывабным для нас бізнесе. І хаця мы паспяхова гандлюем і з Еўрасаюзам, усё ж перастаноўкі на ўкраінскім рынку могуць стаць сюрпрызам для партнёраў у сінявокай.

Чаго чакаць Беларусі ад уступлення Украіны ў ЗСГ з Еўрасаюзам?

Нічога дрэннага, апроч добрага, лічыць эканаміст Барыс Жаліба. Найперш, добра будзе насельніцтву. «Калі разважаць лагічна, то на ўкраінскі рынак вальней будуць паступаць еўрапейскія тавары, больш якасныя, больш танныя альбо недарагія. А калі доступ еўрапейскіх тавараў на ўкраінскі рынак спросціцца, то і для беларусаў асартымент пашырыцца: як для фізічных асобаў, так, я мяркую, і для юрыдычных», — кажа эканаміст. Пэўна, ён мае на ўвазе, што шмат беларусаў маюць магчымасць затарвацца на аптовых рынках Чарнігава і Хмяльніцкага.

Канешне, у сувязі са спрошчаным допускам тавараў з ЕС, частка беларускай прадукцыі зазнае больш моцную канкурэнцыю. «Але я б не сказаў, што гэта дрэнна. Гэта значыць, што ўжо зараз беларускім вытворцам, якія працуюць з Украінай, трэба падцягваць свае тавары па якасці і кошце да еўрапейскіх стандартаў», — адзначае Жаліба.

Між тым, ён не разлічвае, што больш танныя і больш якасныя еўрапейскія тавары, праскокваючы праз бязвізавую ўкраінска-беларускую мяжу, неяк істотна пагоршаць становішча беларускай прамысловасці. «Нам шмат разоў такое казалі. Напрыклад, што ўступленне Беларусі ў Еўразійскі эканамічны саюз адкрые мяжу для расійскіх тавараў, і што яны задавяць беларускую прадукцыю, беларускія прадпрыемствы. Былі




такія перасцярогі. Але ЕАЭС працуе ўжо амаль паўгода, і нічога падобнага не адбываецца. Канешне, у параўнанні з часамі «да ЕАЭС» канкурэнцыі паболела. Аднак трэба аддаць належнае і нашым вытворцам: яны паспяхова канкуруюць з імпартам. А значыць, для спажыўца пашырыўся выбар прадукцыі», — лічыць Жаліба.

«Так што я не думаю, што апасродкаваны «еўрапейскі імпарт» у Беларусь праз Украіну нанясе нейкую значную шкоду айчынным прадпрыемствам. Нашы вытворцы таксама не спяць у шапку. А канкурэнцыя прымусіць іх варушыцца актыўней», — лічыць Жаліба.

Эканаміст Леў Марголін салідарны з Барысам Жалібам, і нават не прадбачыць канкурэнцыі еўрапейскіх і беларускіх тавараў на ўкраінскім рынку. «Па вялікім рахунку, тое, што казала Расія пра экспансію праз Украіну еўрапейскіх тавараў на іх рынак і на рынак ЕАЭС, — гэта збольшага палітычная гульня. Я думаю, што ані для Расіі, ані для Беларусі нейкіх значных наступстваў не будзе. Справа ў тым, што наш экспарт ва Украіну амаль не перасякаецца з тымі таварамі, якія да іх прыйдуць з ЕС. Могуць узнікнуць праблемы па асобных пазіцыях тавараў, прычым па тых, якія цяжка зараз прадбачыць. Але гэтыя праблемныя пытанні зазвычай здымаюцца на двухбаковых перамовах», — кажа Марголін.

**ЗСГ Украіны і ЕС пойдзе толькі на карысць Беларусі**

Канешне, для еўрапейскіх тавараў ва Украіне зменшацца ўвазныя пошліны, здымуцца нейкія бар'еры, але, па меркаванні Марголіна, гэта будзе не настолькі крытычна, каб ад гэтага пацярпеў беларускі экспарт у паўночную суседку.

Так што ЗСГ Украіны і ЕС пойдзе толькі на карысць Беларусі. Прынамсі, так лічаць эканамісты.

## НАВІНЫ РЭГІЁНАЎ

### МАГІЛЁЎ. Стан галадоўнікаў пагоршыўся

**19 мая, на другі дзень галадоўкі, да Наталлі Кастагладавай, а таксама Наталлі Машкоўскай, якія праводзяць галадоўку, прыехала хуткая дапамога.**

У жанчын абвастрыліся хранічныя захворваніі, а таксама пачаліся моцныя галаўныя болі. Пасля агляду жанчын і замеру ціску медыкі з'ехалі.

Нагадаем, што пяць выселеных жыхароў дому № 59 па вуліцы Ленінскай распачалі бестэрміновую галадоўку. Грамадзяне патрабуюць вярнуць ім старое жыллё альбо выдаць іншыя кватэры ў межах горада. Рэакцыі чыноўнікаў на галадаючых грамадзян пакуль няма ніякай.

У пачатку 2014 года іх дом быў прызнаны аварыйным, і яго жыхароў у экстранным парадку выселілі ў інтэрнат будаўнічага трэста №12. Людзям, якія жылі ў кватэрах плошчай 40–60 квадратных метраў, выдалі пакоі ў інтэрнаце з разлікам 6 квадратных метраў на чалавека. Тым часам на руках у грамадзян ёсць ордэры на атрыманыя кватэры.

Як стала вядома з перапіскі, а таксама судовых працэсаў, чыноўнікі спрабуюць выдаць дом №59 за інтэрнат, а не за жылы дом без зручнасцяў. У гэтым выпадку людзям не трэба прадастаўляць жыллё. Тэхпашпарт на будынак загадкава знік, а перапіска з чыноўнікамі розных інстанцый не дала вынікаў.

Пра намер распачаць галадоўку грамадзяне загадзя ў пісьмовай форме ўведамілі Магілёўскі аблвыканкам, Магілёўскі гарвыканкам, Магілёўскую абласную пракуратуру, Генеральную пракуратуру, а таксама Адміністрацыю прэзідэнта.

### БАРАНАВІЧЫ. Праверце факты збіцця аматараў футбола

**Праваабаронца Сяргей Гоўша накіраваў скаргу ў Баранавіцкую міжраённую пракуратуру на дзеянні адказных асоб МУС, якія збілі футбольных фанатаў.**

Праваабаронца адзначыў, што з інтэрнэту даведаўся аб сутычцы каля касаў стадыёна «Лакамагыў» горада Баранавічы паміж супрацоўнікамі АМАП і футбольнымі аматарамі. Гэты інцыдэнт адбыўся 3 мая напярэдадні матча першай лігі чэмпіянату Беларусі паміж мясцовым футбольным клубам «Баранавічы» і магілёўскім «Дняпром».

Сяргей Гоўша ўказвае, што, па словах аднаго з заўзятараў, супрацоўнікі АМАП пачалі біць фанатаў пасля таго, як госці, выкрыкваючы лозунг «Магілёў», накіраваліся ў бок фанатаў клуба «Баранавічы», і замест уціхамірвання магілёўцаў міліцыя пачала затрымліваць і збіваць баранавіцкіх аматараў футбола, выкарыстоўваючы спецсродкі і фізічную сілу. Затым каля 40 баранавіцкіх і 16 магілёўскіх затрыманых фанатаў даставілі ў ГАУС, дзе прымусілі іх падпісаць заявы, што яны не маюць аніякіх прэтэнзій да супрацоўнікаў міліцыі. Сяргей Гоўша мяркуе, што такія дзеянні супрацоўнікаў міліцыі відавочна выходзяць за межы прадастаўленых ім правоў і паўнамоцтваў і здзейснены наўмысна, дыскрэдытуюць МУС, садзейнічаюць фармаванню ў грамадстве ілжывага ўяўлення аб усёдазволенасці прадстаўнікоў улады, прыносяць істотную шкоду правам і законным інтарэсам грамадзян.

Праваабаронца Сяргей Гоўша просіць правесці праверку дадзенай інфармацыі і даць прававую ацэнку дзеянняў супрацоўнікаў міліцыі, а таксама прыняць меры па прыцягненні да адказнасці вінаватых службовых асоб.

### БАБРУЙСК. Месяц на барацьбу з карупцыяй

**У Бабруйску цягам мая праходзіць прафілактычная акцыя «Стоп, карупцыя!», ініцыяваная абласным Саветам дэпутатаў.**

Паведамляецца, што падчас акцыі будуць ладзіцца сустрэчы, на якіх гараджане змогуць (калі не пабаяцца) выказацца наконт праблемы ці паведаміць пра службовых асоб, якія вымагаюць хабар і злоўжываюць службовымі паўнамоцтвамі. Дзе пройдуць гэтыя сустрэчы і колькі іх будзе, нідзе не паведамляецца. Няма такой інфармацыі і на сайце гарвыканкама. Вядома толькі, што 14 мая адзін выязны прыём ужо адбыўся ў ЖЭУ №2 з удзелам Аляксандра Лісоўскага, кіраўніка адміністрацыі Ленінскага раёна.

Чарговы Дзень інфармавання, які пройдзе ў Бабруйску 21 мая, таксама будзе прысвечаны тэме карупцыі. У гэты ж дзень запланавана правядзенне сумеснай прэс-канферэнцыі пракуратуры і УУС. Таксама ў працоўных калектывах плануецца правесці анкетаванне «аб дзейнасці суб'ектаў прафілактыкі правапарушэнняў, эфектыўнасці барацьбы з карупцыйнымі праявамі».

**Паводле spring96.org**

# «Не парушыш — не паслужыш»

Міхаіл ПАСТУХОЎ

**Такі дэвіз многіх служыцеляў пенітэнцыярнай сістэмы, на думку «вязня сумлення» Андрэя Бандарэнкі. Пра гэта ён паведаміў у лісце ад 6 мая.**

Андрэй Бандарэнка ў лісце зазначае, што два месяцы адносна спакойнай жыцця ў шклоўскай калоніі скончыліся вынясеннем двух спагнанняў і атрыманнем статусу «злоснага парушальніка рэжыму». Першае спагнанне было абвешчана ў сувязі з тым, што ў яго на нагрудным знаку не быў паказаны нумар брыгады (да гэтага ніхто не звяртаў увагі на такую дробязь). Падставай для другога спагнання стаў след пылу на нарах. У выніку Бандарэнка быў пазбаўлены права на чарговую перадачу, і самае сумнае — права на амністыю.

А ён так спадзяваўся хутка ўбачыць сваю маладую жонку і дачушку Машаньку, абняць бацьку і сваіх сяброў. Не атрымалася! Сядзець яму яшчэ доўга: год і 10 месяцаў.

Адзінае, што суцяшае Андрэя Бандарэнку: яго перавялі ў камеру, дзе раней сядзеў Мікалай Статкевіч. Праўда, камера сырая і з дрэнным асвятленнем. Ён будзе дамагацца яе «мадэрнізацыі», бо адсутнасць дзённага святла па міжнародных стандартах прыраўноўваецца да жорсткага і бесчалавечнага абыходжання.

Яшчэ адна надзея Андрэя — наглядная скарга, якую ён адправіў у Вярхоўны суд. Ён па-ранейшаму перакананы, што яго асудзілі незаконна, расправіўшыся з ім за яго праваабарончую дзейнасць. Ва ўсялякім выпадку, ён мае намер дамагацца справядлівасці. У гэтым ён бачыць мэту свайго жыцця як грамадзян і як праваабаронца.

# Бакіевы могуць спаць спакойна

Генадзь КЕСНЕР

**Паводле паведамлення прэс-службы парламента Кыргызскай Рэспублікі, краіна вырашыла вярнуць свайго пасла ў Беларусь.**

Пасла Кыргызстана ў Беларусі не было амаль тры гады. Ён быў адкліканы ў сувязі з тым, што афіцыйны Мінск адмовіўся выдаць гэтай краіне брата зрынутага ў выніку рэвалюцыі прэзідэнта Курманбека Бакіева Жаныша. Ужо некалькі гадоў Бішкек дамагаецца выдачы братоў Бакіевых, але беспаспяхова. Таму рашэнне парламента Кыргызстана аб вяртанні пасла ў Беларусь сведчыць пра тое, што пытанне экстрадыцыі Бакіевых адыходзіць на другі план.

Палітолаг Валеры Карбалевіч лічыць такі крок Бішкека лагічным.

«Беларусь і Кыргызстан фармальна — бліжэйшыя саюзнікі, яны ўваходзяць у некалькі інтэграцыйных аб'яднанняў — АДКБ, Еўразійскі эканамічны саюз, і тое, што яны не маюць амбасадараў і знаходзяцца ў стане дыпламатычнага канфлікту — гэта абсалютны нонсенс для блізкіх саюзнікаў. Таму ўлады Кыргызстана вырашылі, што наўрад ці варта канфліктаваць з-за Бакіевых, тым больш, што адбываецца працэс уступлення Кыргызстана ў ЕАЭС, і Беларусь тут магла неяк нашкодзіць, выстаўляць нейкія ўмовы. Таму навошта ўскладняць сітуацыю», — адзначае эксперт.

І да гэтага Бакіевы пачуваліся ў Беларусі спакойна, кажа палітолаг. «Лукашэнка даў ім гарантыі, тым больш, наколькі зразумела, яны атрымалі беларускае грамадзянства, таму на тэрыторыі Беларусі ім нічога не пагражала і дасюль, таму ў іх статусе і іх спакоі нічога не змянілася», — падкрэслівае суразмоўца.

Але, магчыма, Бішкек будзе і надалей патрабаваць выдачы Бакіевых. «Пракуратура можа дасылаць нейкія запыты, але гэта будзе не больш за фармальнасць», — мяркуе Карбалевіч.

Што да Лукашэнкі, то ў яго няма іншага выйсця, як абараняць Бакіевых. «Ён баіцца страціць твар, бо ён уклаў у сваё рашэнне прытуліць Бакіевых уласны вялікі палітычны капітал, і цяпер папросту адступаць няма куды. Інакш бы стала зразумела, што чалавек не трымае слова, прычым у такім далікатным пытанні, як лёс людзей, асабліва калі гаворка ідзе пра такую гучную справу, што шырока абмяркоўвалася ў мас-медыях і гэтак далей. Калі б была справа, пра якую ніхто не ведаў, тады можна было б саступіць. А тут была б вельмі моцная страта», — падсумаваў палітолаг.

# Суд прымушае прыбіраць за чужым мужчынам

Марата ГАРАВЫ

**Суддзя Мінскага гарадскога суда Яўген Хаткевіч не задаволіў касацыйную скаргу 75-гадовай мінчанкі, інваліда II групы Камеліі Чарняўскай.**

Як паведаміла НЧ Камелія Чарняўская, ужо дзясяты год яна жыве ў двухпакаёвай камунальнай кватэры з Андрэем Архангельскім, 1958 года нараджэння. Кожны мае па пакоі, але кухня, вітальня, прыбіральня і ванная знаходзяцца ў сумесным карыстанні.

«З моманту засялення ў 2005 годзе Архангельскі адмовіўся прыбіраць усе месцы агульнага карыстання ў кватэры. Цягам сямі гадоў я сама прыбірала ўсе гэтыя памяшканні ў надзеі, што змагу прывучыць дарослага мужчыну да элементарных правілаў пражывання, і ён пачне па чарзе са мною падтрымліваць належны санітарны стан кватэры. Аднак гэтага не адбылося. Зараз я не карыстаюся кухняй і прыбіральняй, аднак працягваю даглядаць ванную і вітальню. Архангельскі нідзе не працуе, увесь час знаходзіцца ў сваім пакоі, яго наведваюць сабутэльнікі. Апроч таго, мужчына ледзьве не спаліў кватэру, бо не раз пакідаў запаленую газавую пліту без нагляду. У выніку два гады таму кватэру адключылі ад цэнтралізаванага газавага забеспячэння. За такія адносіны да жылля Архангельскі неаднаразова прыцягваўся да адміністрацыйнай адказнасці. Але гэта не змяніла яго паводзінаў», — сказала Камелія Чарняўская.

Яна неаднаразова звярталася па дапамогу ў розныя дзяржаўныя ўстановы, у тым ліку да кіраўніцтва камунальна-унітарнага прадпрыемства ЖЭУ-52 ЖРЭА Першамайскага раёна сталіцы і Першамайскага РУУС, аднак безвынікова. А пасля чарговага звароту ў ЖЭУ-52 юрысконсульт гэтага прадпрыемства Іна Невядомская склала на Камелію Чарняўскую пратакол аб адміністрацыйным правапарушэнні. Згодна гэтаму пратаколу суддзя суда Першамайскага раёна Анастасія Папко аштрафавала пенсіянерку на 360 тысяч рублёў за тое, што яна ўтрымлівае месцы агульнага карыстання ў кватэры ў нездавальняючым санітарным стане. А згодна пастанове суддзі Мінгарсуда Яўгена Хаткевіча пастанова суду першай інстанцыі 19 мая ўступіла ў законную сілу. Камелія Чарняўская лічыць, што такімі дзеяннямі мясцовыя ўлады і суд хочуць прымусіць яе прыбіраць за чужым мужчынам.

Юрыстка Тамара Сяргей адзначыла, што, згодна арт. 58 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, «ніхто не можа быць прымушаны да выканання абавязкаў, якія не прадугледжаны Канстытуцыяй Рэспублікі Беларусь і яе законамі». «Вось чаму Камелія Чарняўская не абавязана прыбіраць за Андрэем Архангельскім. Мясцовая ўлада павінна пачаць працэдуру адчужэння маёмасці мужчыны і перасялення яго ў іншае жыллё», — лічыць Тамара Сяргей.

Паводле яе словаў, суддзі Анастасія Папко і Яўген Хаткевіч прынялі рашэнні паводле Правілаў карыстання жылымі памяшканнямі, не ўнікаючы ў сітуацыю і насуперак Канстытуцыі.

ТЫДНЁВЫ АГЛЯД

# З шырока заплюшчанымі вачыма

Сяргей САЛАЎЁЎ

**Усе, хто можа, папярэджваюць, што Беларусь спаўзае ў крызіс. Пра гэта цвердзяць не толькі МВФ разам з рознымі рэйтынгавымі агенцтвамі, але і афіцыйныя эканамічныя паказчыкі. Між тым, людзі ва ўладзе робяць выгляд, што нічога не адбываецца.**

У прынцыпе, у гэтым няма нічога новага. Калі спыняліся заводы, калі працоўныя адпраўляліся ў вымушаныя адпачынкі на дзве трэціны акладу, а ўсе разважалі пра тое, што краіна на парозе «паўтору крызісу 90-х», улада таксама рабіла выгляд, што «так і трэба». Прынамсі, ніякага ўяўнага варушэння заўважана не было. Так, персанальна Аляксандр Рыгоравіч наведаў на мінулым тыдні Мінскі трактарны завод. Але што ён там сказаў? Можа, распавёў, як МТЗ павінна выжываць у сённяшніх умовах? Не. Ён разважаў над пытаннем захавання працоўных калектываў, у чарговы раз паведаміў пра стрымліванне коштаў, прайшоўся па імпарту і імпартазамяшчэнні, пахваліўся сваёй сустрэчай з кіраўніком Кітая Сі Цзыньпінам і распавёў пра правільную дыету.

«Беражыце сябе, сваіх дзяцей і сям'ю. Усё астатняе прыкладзецца. Не перажывайце. Худа-бедна сарганізуем, згрупуемся і вытрымаем. Беларусы і не такое вытрымлівалі. Гэта ж не вайна», — вось і ўсё, што мог сказаць правадыр краіны працоўным. То бок, як-небудзь выкруцімся. А вось як будзем выкручвацца, мы яшчэ не прыдумалі.

Тым часам ВУП Беларусі за 4 месяцы абваліўся на 2,6% у параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт краіны. Гэта ўжо сур'ёзны паказчык, які сведчыць пра сістэмнае падзенне эканомікі. Гэта не зніжэнне на 0,5–1%, якое можна патлумачыць нейкімі флуктуацыямі. «Флуктуацыйныя» спады вытворчасці нейкімі высілкамі можна нагнаць, але сістэмны спад кажа ўжо аб заганах у эканамічнай мадэлі ў цэлым.

Гэта тым больш прыкры паказчык, што нашы ўлады планавалі ў гэтым годзе рост ВУП у 0,2–0,7%. То бок, для таго, каб такі рост паказаць, нам трэба вырасці за 8 месяцаў недзе на 3–3,5 працэнты. А гэта ўжо добры паказчык для нармальных еўрапейскіх краінаў.

Больш за тое, за чатыры месяцы мы дасягнулі самага песімістычнага прагнозу МВФ, які прадказваў, што эканоміка сінявокай упадзе на 2,6% за ўвесь год.

Болей за тое, нават створанае намі мы не можам прадаць. У красавіку складскія запасы працягнулі рост. На 1 мая 2015 года яны выраслі на 0,181 трыльёна рублёў і дасягнулі 39,131 трыльёна рублёў. Суадносіны запасаў гатовай прадукцыі і сярэднямесячнага аб'ёму вытворчасці на 1 красавіка 2015 года склала 84,6% супраць 75,8% на 1 студзеня 2015 года. Між іншым, «нармальнымі» для Беларусі лічыцца 50–55% складскіх запасаў. Больш 80% — гэта ўжо крытычны ўзровень.

Але, па меркаванні, напрыклад, нашага прэм'ера Андрэя Кабякова, прадпрыемствы не вінаватыя ў тым, што працуюць «на склад», а іх прадукцыя не прадаецца. І ў спадзе вытворчасці вінаваты хто заўгодна, толькі не ўрад. На пасяджэнні Саўміна па выніках працы першага квартала ён заявіў: «За мінулы перыяд урад і Нацыянальны банк паслядоўна рэалізавалі вымушаныя жорсткія меры па макраэканамічнай стабілізацыі. Па сутнасці, у сціслыя тэрміны прыйшлося адаптаваць бюджэт, банкаўскую сістэму, рэальны сектар краіны да працы ў новых эканамічных умовах, выкліканых абвалам цэнаў на нафту, рэзкай дэвальвацыяй расійскага рубля, еўра, грыўні і іншых валют, рэцэсіяй сусветнай эканомікі і сцісканнем попыту ў нашых ключавых гандлёвых партнёраў».

> **2,6%**
>
> **На столькі абваліўся ВУП Беларусі за 4 месяцы ў параўнанні з аналагічным перыядам мінулага года, паведамляе Нацыянальны статыстычны камітэт краіны. Гэта ўжо сведчыць пра сістэмнае падзенне эканомікі**

То бок, у спадзе эканомікі вінаватыя хто заўгодна, толькі не мы. Гэта розныя «ворагі-замежнікі», якія абвалілі цану на нафту, расійскі рубель, украінскую грыўню і заадно еўра. Карацей, так склаліся зоркі, мы — ні пры чым.

Што застаецца? Праядаць раней назапашаныя рэсурсы. Той жа Міжнародны валютны фонд, які «недапрадказаў» падзенне ВУП Беларусі, зараз прарочыць крытычнае зніжэнне золатавалютных рэзерваў нашай краіны. Ён думае, што нашы ЗВР знізяцца амаль удвая: з цяперашніх $4,5 мільярда да 2,5 мільярда на канец бягучага года. Прагноз па зніжэнні ЗВР можна растлумачыць велічынёй выдаткаў на абслугоўванне знешняга дзярждоўгу і адсутнасцю (па меншай меры, на дадзены момант) выразных крыніц фінансавання гэтых выдаткаў.

Характэрна, што эксперты фонду не рызыкнулі прадказваць курс беларускага рубля на канец 2015 года альбо не сталі гэта рабіць па просьбе беларускіх уладаў.

$2,5 мільярда золатавалютных рэзерваў — гэта 80% аб'ёму месячнага імпарту. У той час, як бяспечным лічыцца ўзровень ЗВР у два месяцы аб'ёму імпарту. То бок, нам трэба «для гарантыі» мець у кубышцы не менш як $6 мільярдаў, а лепш, як казалася раней, — $8 мільярдаў.

У той жа справаздачы МВФ, дарэчы, чамусьці зменшыў гадавое зніжэнне ВУП Беларусі сінявокай да 2,3%, але адначасна заявіў пра гадавую інфляцыю ў 22%. Разам з тым, фонд заклікаў улады да даўно агучаных рэформаў: лібералізацыі коштаў, адмовы субсідавання тарыфаў на транспарт і ЖКГ, адмену мэтавых паказчыкаў для прадпрыемстваў (абавязковыя планы) і прыватызацыю.

Аднак на рэформы мы ісці не збіраемся і не збіраліся. Напрыклад, той жа Кабякоў запэўніў усіх, што ўлады не будуць павышаць тарыфы на транспарт і паслугі ЖКГ да тых часоў, пакуль не вырастуць заробкі. «Для падтрымкі людзей ва ўмовах аб'ектыўна складанай сітуацыі на рынку працы ўрад не планує павелічэнне тарыфаў на транспарт і сувязь. Магчымасці індэксацыі тарыфаў на ЖКГ будуць разглядацца толькі ва ўвязцы з фактычным ростам заработнай платы», — заявіў прэм'ер.

Ён адзначыў, што ўлады працягнуць маніторынг коштаў. «З буйнымі гандлёвымі сеткамі наладжаны канструктыўны дыялог. Цэны кантралююцца, у выпадку неабходнасці будуць уведзеныя новыя меры адміністрацыйнага рэгулявання», — папярэдзіў Кабякоў.

То бок, як раней і казалася, мы лічым за лепшае «не заўважаць» крызіс. Зразумела, што пры падзенні ВУП і адсутнасці продажу нашай прадукцыі заробкі расці не будуць. Адначасна ўлады «адміністрацыйнымі метадамі замарозяць цэны». Канешне, усё гэта ўкладаецца ў канцэпцыю кіраўніка дзяржавы пра «брэжнеўскі застой» у асобна ўзятай краіне былога СССР. Але гэты «застой» немагчымы ў краіне з адкрытай эканомікай. І ўсе дакладна ведаюць, чым ён скончыўся.

ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ



## Лілія Ананіч

**Кіраўніца міністэрства інфармацыі падмахвае не гледзячы ўсё, што ёй пакладуць на подпіс. Прынамсі, такое ўражанне ўзнікае з практыкі працы Мінінфамацыі.**

На тыдні байнэт быў вельмі ўзрушаны. Некаторыя сайты атрымалі лісты за подпісам Ананіч, у якіх казалася пра тое, што «ўладальніку рэсурсу выносіцца пісьмовае папярэджанне за распаўсюд няпраўджанай інфармацыі» і гэтак далей. Такія лісты атрымалі, напрыклад, «Радыё Рацыя», музычны партал «Тузін.fm», грамадскае аб'яднанне «Свабодны рэгіён», сайт Аб'яднанай грамадзянскай партыі. Зразумела, усе ўспрынялі гэта як папярэджанне.

Аказалася, гэта «не зусім так». «Дакументы, атрыманыя названымі сайтамі, не з'яўляюцца папярэджаннямі. Гэта інфармацыйныя лісты аб недапушчальнасці парушэнняў заканадаўства», — паведамілі ў Мінінфарме.

Больш за тое, Мінінфарм рассылаў гэтыя лісты паводле прынцыпу «выпадковай выбаркі». «Мы не можам пакуль назваць вам прычыны таго, чаму іх вырашылі даслаць менавіта ў такія рэдакцыі. Міністэрства інфармацыі цяпер займаецца складаннем базы ўладальнікаў сайтаў», — распавялі ў ведамстве.

Навошта было турбаваць рэдакцыі — не вядома. Таксама не вядома, ці маюць нейкую юрыдычную моц гэтыя «папярэджанні». Але паводзіны Мінінфарму выглядаюць як мінімум дзіўнымі.

## Аляксандр Радзькоў



**Кіраўнік дзяржавы вызваліў свайго памочніка ад гэтай пасады па стане здароўя.**

Аляксандр Радзькоў быў прызначаны памочнікам Лукашэнкі 20 снежня 2014 года. Да гэтага ён працаваў першым намеснікам кіраўніка Адміністрацыі прэзідэнта. Але значна больш важна, што Радзькоў таксама ўзначальваў грамадскае аб'яднанне «Белая Русь».

Вядома, што «Белая Русь» — пралукашэнкаўскае аб'яднанне. І яно заўсёды выступае «галоўным мабілізатарам» масаў падчас прэзідэнцкіх выбараў. Сёлетнія выбары, якія павінны адбыцца ўвосень, маюць быць складанымі для Аляксандра Рыгоравіча, зыходзячы з эканамічнай сітуацыі ў краіне. Прынамсі, няма за што «купіць» электарат, сам Лукашэнка заяўляў, што заробкі «з палітычных матываў» расці не будуць. Таму роля «мабілізуючай сілы» Аляксандра Радзькова зараз значна падвышаецца.

Магчыма, адстаўка Радзькова не звязаная ані са станам здароўя, ані з «апалай кіраўніка», як пра гэта кажуць некаторыя эксперты. Проста ў Радзькова зараз наступае «гарачы перыяд» па выкананні вельмі складанай задачы: пераканаць народ, што няма больш вартага прэзідэнта, чым Лукашэнка. Таму кіраўнік дзяржавы вызваліў яго ад дадатковай працы, каб Радзькоў мог прысвяціць галоўнай мэце ўвесь свой вольны і працоўны час.

## Юзары і Маймуна



**Беларускі праект — дуэт «Uzari & Maimuna» з кампазіцыяй «Time» — не патрапіў у фінал «Еўрабачання».**

19 мая ў Вене адбыўся першы паўфінал «Еўрабачання–2015». Перад гледачамі выступілі канкурсанты з 16 краін. У выніку ў фінал прайшлі Албанія, Арменія, Расія, Румынія, Венгрыя, Грэцыя, Эстонія, Грузія, Сербія і Бельгія.

Нагадаем, з кожнага паўфіналу выбіралі па 10 краін, якія працягваюць барацьбу ў фінале. Ён адбудзецца 23 мая, а акрамя тых, хто стане лепшымі ў паўфіналах, за першае месца будуць змагацца музыканты Францыі, Вялікабрытаніі, Германіі, Італіі і Іспаніі — краін-заснавальніц конкурсу. Усяго ў «Еўрабачанні–2015» прымаюць удзел 40 дзяржаў.

Букмекеры лічаць, што ў гэтым годзе перамога дастанецца Швецыі.

Беларусь удзельнічае ў «Еўрабачанні» з 2004 года, у фінале конкурсу наша краіна выходзіла 4 разы: у 2007 — Дзмітрый Калдун (6-е месца), у 2010 — праект «3 + 2» (24-е месца), у 2013 — Алёна Ланская (16-е месца), у 2014 — Тэа (16-е месца).

# Магчымасць, якой пакуль не скарысталіся

Аксана КОЛБ

**«Саміт Усходняга партнёрства, які адбудзецца ў Рызе, — адзін з важных прамежкавых этапаў, які магла б скарыстаць Беларусь для далейшага развіцця адносін», — сказала ў інтэрв'ю НЧ міністр замежных спраў Эстоніі Кейт Пентус-Разіманус.**


Кейт Пентус-Разіманус


Віктарс Макараўс

Інтэрв'ю са спадарыняй міністрам мы рабілі літаральна за тыдзень да саміту. Кейт Пентус-Разіманус паведаміла, што перамовы паміж ЕС і Беларуссю пра спрашчэнне візавага рэжыму і рэадмісію падыходзяць да фінішу, і была ўпэўнена, што, хутчэй за ўсё, менавіта на саміце будзе падпісана адпаведная дамова. «Калі казаць пра больш шырокую перспектыву, Беларусь — гэта краіна, якая мае вялікі патэнцыял, а для таго, каб увесь гэты патэнцыял рэалізаваць, трэба прытрымлівацца вяршэнства права, — падкрэсліла міністр. — Беларусь сама павінна вырашыць, ці хоча яна мадэрнізацыі, выгод ад ажыўлення эканамічных стасункаў, адчынення рынкаў для дабрабыту свайго народа. З боку ЕС прапанаваныя такія магчымасці, з нашага боку ёсць жаданне развіваць адносіны, але Беларусь павінна сама зрабіць гэты выбар».

На пытанне, ці не ўзмоцніцца ціск на Беларусь з боку Расіі, калі наша краіна пойдзе шляхам больш цеснага супрацоўніцтва з Еўрасаюзам, Кейт Пентус-Разіманус адказала: «Кожная суверэнная краіна мае права выбіраць сабе хаўруснікаў і партнёраў, тую эканамічную прастору, у якую інтэгравацца. Ні Расія, ні якая іншая краіна не маюць права прымаць рашэнні за кагосьці. А агрэсія і парушэнне міжнароднага права павінна мець настолькі высокую цану, каб Расія больш ніколі не захацела паўтарыць такі ж сцэнар, як ва Украіне».

А вось дарадца міністра замежных спраў Латвіі Віктарс Макараўс, з якім мы таксама сустрэліся напярэдадні саміту, хаця і не бярэцца прагназаваць рэакцыю Расію ў выпадку збліжэння Беларусі з ЕС, але лічыць, што супярэчнасць паміж еўрапейскім і расійскім вектарам прыдумалі і падтрымліваюць менавіта ў Расіі.

«Мы не бачым прынцыповых супярэчнасцяў паміж цеснымі эканамічнымі кантактамі Беларусі з Расіяй і больш цеснай інтэграцыі з ЕС, — сказаў дарадца міністра. — Праблема ў тым, што расійскі бок у выпадку з Украінай чамусьці ўгледзеў у гэтым вялікую небяспеку для сябе. Гэту нібыта супярэчнасць паміж расійскім і еўрапейскім вектарам прыдумалі і падтрымлівалі не мы. Гэта больш звязана з разуменнем працэсаў, якія характэрныя для расійскага кіраўніцтва. І гэта выклікае вялікае шкадаванне, бо, займаючыся не адстойваннем сваёй так званай сферы інтарэсаў, а ўдзельнічаючы ў больш шчыльным усебаковым супрацоўніцтве, можна толькі набыць. Але, на жаль, расійскі бок не ўспрымае такую логіку. Я думаю, што такі падыход непрадуктыўны і супярэчыць інтарэсам у тым ліку самой Расійскай Федэрацыі».

«Лёс Беларусі перш за ўсё ў руках народа Беларусі, мы не можам умешвацца. Як будзе Беларусь будаваць адносіны з Расіяй, гэта пытанне, на якое павінны даць адказ беларускі народ і ўрад, — падкрэсліў Віктарс Макараўс. — ЕС зацікаўлены ў тым, каб у суседніх рэгіёнах была стабільнасць, каб краіны-суседзі квітнелі эканамічна і былі палітычна стабільныя. Гэта наўпрост звязана з нашымі інтарэсамі. Нам не хочацца, каб побач з намі былі канфлікты, якія могуць паслабіць нашу бяспеку. Але гэта не значыць, што мы хочам навязваць сваю волю, свае каштоўнасці. Гэта заўсёды толькі прапановы, якія альбо прымаюць, альбо ад іх адмаўляюцца. І тыя шэсць краін Усходняга партнёрства, якія будуць прадстаўлены на саміце ў Рызе — добрая ілюстрацыя таго, што ў канчатковым выніку кожная краіна сама выбірае свой шлях развіцця, сваю будучыню. ЕС не прымушае да больш цеснай інтэграцыі.

Мы бачым, што ў Грузіі, Малдовы і Украіны гэтыя інтарэсы да збліжэння з ЕС выразна акрэсленыя, таму яны і падпісалі пагадненне пра асацыяцыю. Тры іншыя краіны, у тым ліку і Беларусь, у чымсьці праявілі цікавасць да больш цеснага супрацоўніцтва з ЕС, у чымсьці не. Гэта выбар гэтых краін. Там, дзе ёсць жаданне больш цеснага дыялогу, ЕС гэта вітае.

Латвія як краіна-суседка вітае сігналы з боку Беларусі да большай адкрытасці. Але пры гэтым мы не забываемся і пра тыя каштоўнасныя ўстаноўкі, якія суправаджаюць любы дыялог. Гэта — правы чалавека і дэмакратыя. А што тычыцца Беларусі, то далейшая нармалізацыя адносін цесна звязаная з лёсам палітвязняў у вашай краіне. Мы ніколі не забываемся пра гэта казаць. Але гэта ў любым выпадку выбар кіраўніцтва Беларусі. Мы гатовыя да дыялогу.

Я лічу вельмі важным, што адбываецца рух у бок новых дамоўленасцей, у прыватнасці ў сферы спрашчэння візавага рэжыму, я спадзяюся, што такія рашэнні ўжо ў бліжэйшы час будуць зафіксаваныя. У канчатковым выніку гэта азначае вялікія магчымасці для людскіх кантактаў, гэта заўсёды добра і дае людзям магчымасць лепш пазнаць адзін аднаго, а не ацэньваць сітуацыю не толькі праз СМІ», — адзначыў дарадца міністра замежных спраў Латвіі.

# Саміт у Рызе: без прарыву

Сяргей ПУЛЬША




**Саміт «Усходняга партнёрства», які праходзіць 21–22 мая ў Рызе, для Беларусі можна назваць «тэхнічным». Збольшага, усе такія саміты для нашай краіны мала што вызначалі. Перш за ўсё таму, што афіцыйны Мінск ставіцца да іх як да магчымасці атрымаць хоць невялікія, але дадатковыя грошы на «еўрапейскія праекты» ў Беларусі.**

Аляксандра Лукашэнку персанальна на гэты саміт не запрасілі. Па вялікім рахунку, гэта значыць, што ўсе ягоныя «міратворчыя дзеянні» па ўрэгуляванні канфлікту ва Украіне асабліва прарыву на Захад не далі. Беларусь на саміце прадстаўляў міністр замежных спраў Беларусі Уладзімір Макей.

Зрэшты, ён прадстаўляў Беларусь і на мінулым, Віленскім саміце. І тое толькі таму, што ЕС вырашыў зрабіць з яго «паштавага голуба» паміж еўрапейцамі і «апошнім дыктатарам Еўропы». Тады, за некалькі месяцаў да лёсавызначальнага віленскага саміту УП, з Макея былі «часова знятыя» санкцыі ЕС, і ён быў выкраслены са спісу неўязных у Еўропу. На ранейшых самітах сінявокую прадстаўлялі ўвогуле паслы ў краінах, якія прымалі гэты форум.

Але нават «тэхнічныя саміты» ўсё роўна адбываюцца на Беларусі. Напрыклад, на мінулым Віленскім саміце УП Макей задэкляраваў, што наша краіна мае намер спрасціць візавы рэжым з Еўропай. З таго часу было шмат перамоваў па візавых пытаннях, і, па звестках з некаторых крыніцаў, да Рыжскага саміту збольшага ўсе дакументы па гэтым пытанні былі ўзгодненыя.

Прынамсі, пра гэта паведаміў са спасылкай на «свае дыпламатычныя крыніцы» аналітык Беларускага інстытута стратэгічных даследаванняў (BISS) Дзяніс Мельянцоў. Па ягонай інфармацыі, «перамовы па дамове аб візавай фасілітацыі і рэадмісіі знаходзяцца цяпер у завяршальнай стадыі». Бакі здолелі ўзгадніць самыя праблемныя пытанні, якія тычацца паездак па дыппашпартах без візаў. «Гэта кажа пра тое, што тэкст практычна гатовы, застаецца пытанне, ці будзе ён парафіраваны падчас Рыжскага саміту», — сказаў Мельянцоў.



Крыніцы Мельянцова падманулі. Напярэдадні пачатку саміта дзяржаўны сакратар МЗС Латвіі Андрэйс Пілдзеговічс распавёў, што пагадненне аб спрашчэнні візавага рэжыму паміж Беларуссю і ЕС у Рызе парафіравана не будзе. На ўзгадненне тэксту дакумента і яго падпісанне плануецца выйсці ў сярэдзіне чэрвеня — да канца латвійскага старшынства ў ЕС.

Таксама, па інфармацыі дзяржсакратара МЗС Латвіі, на саміце не будзе падпісана Партнёрства па мабільнасці (гэта пагадненне прадугледжвае паглыбленае супрацоўніцтва па пытаннях працоўнай міграцыі, мабільнасці і барацьбы з незаконнай міграцыяй).

Карацей, Макей мог бы на саміт і не ехаць. Канешне, Усходняе партнёрства дае Беларусі нейкія дробныя грошы, напрыклад, на трансгранічнае супрацоўніцтва, але для гэтага дастаткова было б усюдыіснай намесніцы Макея Алены Купчынай.

Але ж Макей паехаў. Паехаў ён таму, што, па меркаванні палітолага Валера Карбалевіча, саміт УП дае магчымасць маленькага кроку для паляпшэння стасункаў з Захадам. «Усё ж такі саміт — гэта поле для манеўраў, для магчымасці размарозкі адносінаў з Еўропай», — адзначае ён.

Варта адзначыць, што нічога асаблівага не чакалі і ад мінулага, Віленскага саміта УП 2013 года. Аднак ягоныя рашэнні (а дакладней, адсутнасць аднаго рашэння) змянілі малюнак свету. Адмова былога кіраўніка Украіны Віктара Януковіча, насуперак сваім абяцанням, падпісаць асацыяцыю з ЕС, вылілася ў Еўрамайдан, а потым «Рэвалюцыю годнасці», захоп Расіяй Крыму і вайну на Данбасе.

Гэткія вынікі сходу ў Вільні шакавалі саму Еўропу. Магчыма, таму, па сведчанні еўрапейскіх журналістаў, папярэдні праект рэзалюцыі саміту Усходняга партнёрства «нават слабейшы, чым прыняты ў Празе ў 2009 годзе, калі ў дэкларацыі значылася магчымасць спрошчанага збліжэння з ЕС для краін «Усходняга партнёрства». «Цяпер ЕС толькі прызнае суверэнныя права кожнага партнёра свабодна выбіраць узровень амбіцый і мэтаў, да якога ён імкнецца ў дачыненні з ЕС», — адзначае, напрыклад, афіцыйны часопіс Еўрасаюза.

Карбалевіч таксама зазначае, што ў праектах дакумента гэтага саміта не дэкларуецца нейкага больш шчыльнага ўцягвання краінаў-партнёраў у еўрапейскую інтэграцыю. І гэта, на ягонае меркаванне, паказвае крызіс самой праграмы Усходняга партнёрства. «У ЕС — новае кіраўніцтва, і, гледзячы з першых выказванняў, праграма УП зазнае пэўную трансфармацыю. Можа быць зменены сам прынцып гэтай праграмы «большае за большае» — то бок, больш прэферэнцый атрымлівае тая краіна, якая найбольш прасунулася ў інтэграцыі з ЕС. Ходзяць размовы аб большым упоры на двухбаковых пагадненні паміж краінамі, тады незразумела, навошта дзеля гэтага асобная праграма. Карацей, УП сутыкнулася з выклікамі, якія трэба асэнсаваць», — лічыць эксперт.

На саміце УП і краіны-заснавальнікі, і краіны-партнёры могуць абмяркаваць новыя выклікі і фарматы далейшай дзейнасці. Але наўрад ці Рыжскі саміт УП нешта глабальна зменіць у Беларусі.




# Мы ўсе — грамадзяне адной краіны

Ганна МЫЗЕНКА

**Да маладых людзей на вуліцах Вільні лепш звяртацца па-англійску. Бо праз чвэрць стагоддзя пасля атрымання Літвой незалежнасці рускую мову тут вывучаюць далёка не ўсе. Затое і стэрэатыпаў, уласцівых пакаленню савецкіх часоў, прадстаўнікі якога вымушаныя былі размаўляць па-руску, у сучаснай моладзі амаль няма.**

### Tabula Rasa

Паўлюс і Кароліс — два сябра. Яны вучацца ў 9-м класе і ўжо няблага размаўляюць па-руску. Хлопцы, хоць яшчэ і не вызначыліся з выбарам прафесіі, усё роўна ўпэўненыя, што руская мова дасць ім вялікія перавагі ў будучыні. Паўлюс вывучыў мову выпадкова — надта падабаўся яму канал «Дыскаверы», які ішоў толькі па-руску. Кароліс, які мае польскія карані, ведае рускую мову крыху лепей, таму дапамагае сябру. Але ім нестае практыкі. Бо ўсе рускамоўныя ад нараджэння аднакласнікі хлопцаў вольна размаўляюць па-літоўску. «Усе рускія, якія жывуць тут, вельмі добрыя людзі. Яны любяць Літву, любяць Вільнюс, яны не адрозніваюцца ад нас, нам нават палітыку з імі не трэба абмяркоўваць, бо мы маем падобныя погляды, — кажуць хлопцы. — Апроч таго, рускія сябры дазваляюць нам глядзець на ўсё шырэй. Яны жывуць у рускіх сем'ях, і таму маюць не прарасійскія або пралітоўскія погляды, а нейкае трэцяе меркаванне — нейтральнае, і гэта вельмі цікава».

Паўлюс і Кароліс, як і іхныя сябры, значна бліжэй па менталітэту да заходніх еўрапейцаў, чым прадстаўнікі старэйшага пакалення мясцовых літоўцаў ды рускіх. У школе падлеткаў вучаць быць талерантнымі да іншых поглядаў.

Таму 80-гадовая нянька малодшага брата Паўлюса адчувае сябе ўтульна ў іх сям'і. І гэта нягледзячы на тое, што жанчына прытрымліваецца прарасійскіх поглядаў, марыць пра вяртанне Савецкага Саюза і пра тое, каб Пуцін прыйшоў у Літву. Усё сваё жыццё яна глядзела толькі расійскія каналы, размаўляла ў асноўным па-руску.

— Ці не баяцца вашы бацькі, што нянька дрэнна паўплывае на вас? — спытала я ў Паўлюса.

— Яна не робіць нічога кепскага, мы з братам застаемся патрыётамі Літвы. А нянька толькі дапамагае нам параўнаць і зразумець, як добра мы жывем. Да таго ж прысутнасць у сям'і чалавека, які думае інакш, выхоўвае ў нас цярпімасць ды талерантнасць. А на Дзень Незалежнасці нянька заўсёды нас віншуе і выпякае прыгожы смачны пірог.

Спыненне трансляцыі расійскіх каналаў у Літве хлопцы ўхвалілі. «Там шмат няпраўды», — кажуць яны.

### Раскажы мне пра Пуціна...

Некаторыя з рускамоўных у Літве абураныя спыненнем вяшчання расійскіх тэлеканалаў: «Гэта праблема толькі для пенсіянераў ды людзей старэйшага ўзросту, якія, магчыма, не маюць інтэрнэту. Што дае гэтая забарона, калі існуюць спадарожнікавыя талеркі? Добры быў прыклад, калі выходзіла праграма «Чалавек і закон», праз якую зачынялі Першы Балтыйскі канал. Мы нават ліставаліся з расійскімі калегамі на гэты конт. І самае цікавае было тое, што колькасць праглядаў гэтай праграмы з балтыйскіх краінаў зашкальвала! То бок праграму забаранілі і зрабілі ёй такую рэкламу, што яе паглядзелі нават тыя, хто не збіраўся»,— кажа былы журналіст Першага балтыйскага каналу, а зараз дэпутат гарадскога савета Вісагінаса Дзмітрый Іконнікаў.





Паўлюс і Кароліс



Дзмітрый Іконнікаў

Сам Дзмітрый лічыць, што ў палітычным і грамадскім жыцці Літвы стала «надта шмат Пуціна». Людзей ацэньваюць паводле стаўлення да прэзідэнта Расіі. «У нас «пятай калонай», апроч, натуральна, рускамоўных журналістаў, ужо лічаць і тых, хто з георгіеўскімі стужкамі ходзіць і 9 мая святкуе Дзень Перамогі, і тых хто супраць сланцавага газу, — працягвае Дзмітрый. — Вось настаўнікі нядаўна спрабавалі страйкаваць, іх таксама залічылі ў «пятую калону». У выніку ім кажуць: вы хочаце зрабіць кепска Літве, а Літве можа зрабіць кепска толькі Пуцін, значыць, вы прыхільнікі Пуціна. Увогуле, рускую, польскую, беларускую дыяспары падштурхоўваюць да таго, каб яны вызначыліся: або яны прымаюць такое грамадскае меркаванне, або не прымаюць, і ў залежнасці ад гэтага яны добрыя або дрэнныя. Сярод саміх літоўцаў, з якімі я шмат стасуюся, такая палітыка ўжо выклікае некаторую стомленасць. Калі паводле некаторых геапалітычных крытэрыяў ацэньваюць людзей, гэта няправільна».

Сам Дзмітрый, як дэпутат, вельмі стрымана ацэньвае палітычныя працэсы. І ў сцэнар з'яўлення «зялёных чалавечкаў» у Літве Дзмітрый не верыць. А ўсе чуткі пра ягоную падрыхтоўку выклікаюць у яго толькі ўсмешку. «Была гісторыя з вільнюскімі рускімі школьнікамі, якія паехалі ў турпаход, а іх спрабавалі абвінаваціць у тым, што яны ледзь не практыкаваліся з «зялёнымі чалавечкамі». Правялі праверку, выклікалі дырэктараў школ, а ў выніку нікому ніякіх абвінавачванняў не прад'явілі».

### Пад уплывам Расіі

Напярэдадні паездкі ў Літву я звязалася з мясцовым Саюзам рускіх, кіраўніца якога Ларыса Дзмітрыева з'яўляецца дэпутаткай літоўскага парламента — Сейма. Раней палітык рабіла даволі гучныя заявы пра тое, што рускім у Літве жыць няпроста. Напрыклад, у кастрычніку мінулага года спадарыня Дзмітрыева сказала: «Расійская абшчына вельмі заклапочаная. Таму што зараз няспынна ўздымаюць гэтую тэму. Ужо з'яўляецца не вельмі прыгожае стаўленне, не хочуць стасавацца, ужо рускія баяцца размаўляць па-руску або прызнаваць, што яны рускія, чаго ў Літве ніколі не было».

Аднак падчас тэлефоннай размовы маё пытанне пра тое, ці памянялася стаўленне да рускіх у сувязі з падзеямі на Украіне, памочніца дэпутаткі адказала, што Саюз рускіх Літвы пазбягае каментаваць гэтую тэму. Праз некалькі дзён яна напісала мне, што Ларыса Дзмітрыева, як і астатнія прадстаўнікі Саюза рускіх Літвы, вельмі занятыя і не могуць даць мне інтэрв'ю...

Апроч Саюза рускіх, ёсць і іншыя партыі, арганізаваныя паводле нацыянальнай прыкметы. Напрыклад, «Рускі альянс», прадстаўніца якога таксама займае дэпутацкае крэсла. Трапіць у Сейм яна здолела дзякуючы аб'яднанню з «Выбарчай акцыяй палякаў». Дарэчы, я чула меркаванне, што прадстаўнікі рускай ды польскай дыяспар маюць блізкія погляды, таму саюзы гэткага кшталту тут не дзіва. Наогул жа, партыі, арганізаваныя па нацыянальнай прыкмеце, маюць у Літве малы ўплыў.

Аднак магчымасць трапіць ва ўладу ёсць нават у самых радыкальных прадстаўнікоў рускай меншасці, у тым ліку тых, хто, па чутках, фінансуецца Расіяй.

«Расія фінансавала ў Літве стварэнне двух цэнтраў па абароне правоў. Там працуе адзін-два чалавекі. Адзін з іх — Рафаэль Муксінаў — трапіў у самакіраванне па спісу «Блока Вальдэмара Тамашэўскага» (гэта «Рускі альянс» і «Выбарчая акцыя палякаў»). Ёсць яшчэ Сацыялістычны фронт Літвы, усе актыўныя сябры якога знаходзяцца на ўтрыманні Расіі. То бок партыя зарэгістраваная афіцыйна, а яе сябры адначасова з'яўляюцца ўдзельнікамі арганізацый, якія існуюць на расійскія грошы. Бо палітычным партыям Літвы забаронена атрымліваць іншаземнае фінансаванне. Аднак, калі ў прэсе з'явіцца больш інфармацыі пра іх сапраўдную дзейнасць і пра крыніцы фінансавання, то другім разам іх могуць і не абраць. Пакуль што ў самакіраванне трапіў адзін, ну і некалькі — у мясцовае самакіраванне», — кажа Арвідас Анушаўскас, прадстаўнік Камітэта па нацыянальнай бяспецы і абароне сейма Літвы.



Арвідас Анушаўскас

### Патрэбна большая ўвага

Падчас крызісу 2009 года ў Літве быў скасаваны Дэпартамент па справах нацменшасцяў. Частка яго функцый была перададзена Міністэрству замежных спраў, частка — Міністэрству культуры. Цяпер ёсць рашэнне аднавіць гэтую структуру. Бо працы для яго зараз шмат.

Тое, што справамі рускіх трэба займацца, цяпер у Літве добра ўсведамляюць не толькі палітыкі. Архітэктар Міндаўгас Гладзяніс амаль не размаўляе па-руску, бо хадзіў у школу ўжо пасля таго, як Літва зрабілася незалежнай. Зараз хлопец жыве ў Вільнюсе, але раней колькі год пражыў у Нідэрландах, таму памятае ў асноўным родны горад Панявежыс, а не літоўскую сталіцу:



Міндаўгас Гладзяніс

— Я ніколі не задумваўся пра праблемы нацыянальных меншасцяў, хаця і меў рускіх сяброў, — распавядае хлопец. — Але я не бачыў розніцы паміж намі. І толькі цяпер, калі я вярнуўся ў Вільнюс, я стаў сустракаць больш рускіх, у тым ліку тых, якія не размаўляюць па-літоўску, у асноўным гэта маргіналы.

— Ці не адчуваеце вы небяспекі для незалежнасці Літвы ў сувязі з «рускім пытаннем»? — спытала я Міндаўгаса.

— Як мы будзем абыходзіцца з мясцовымі рускімі, так і яны будуць з намі. У мяне праблемаў з рускімі не было ніколі. Я наогул не думаю, што мы мусім казаць пра «іх» і пра «нас», гэта няправільна. Мы ўсе грамадзяне адной краіны. Калі мы будзем паважаць мясцовых рускіх, добра да іх ставіцца, прыслухоўвацца да іх меркавання, да іх праблемаў, усё будзе добра.

Чым хутчэй набліжалася паездка ў Клайпеду, тым больш неспакойна рабілася на душы. Я ўпарта не хацела перажываць той боль развітання з былым домам, які не дазволіла сабе адчуць 20 гадоў таму, калі мусіла з'ехаць з роднага горада — Клайпеды. Я не хацела зноўку рабіцца той «рускай», якой адчувала сябе ўсё сваё дзяцінства. Бо менавіта праз гэтую «рускасць» я і мусіла перажыць адно з самых моцных выпрабаванняў юнацтва.

Працяг будзе

TV

## 31 МАЯ, НЯДЗЕЛЯ

### Беларусь 1

**07.10** Меладрама «У ракі два берагі».
**08.50** Слова Мітрапаліта Паўла.
**09.00** Навіны.
**09.10** «Арсенал». Праграма пра армію.
**09.40** Камедыя «Кухня» (Расія).
**10.45** «Пра ежу!» Кулінарны майстар-клас.
**11.20** XXL WOMAN TV. Жаночы часопіс.
**12.00** Навіны.
**12.10** Навіны. Цэнтральны рэгіён.
**12.35** «Зона Х». Вынікі тыдня.
**13.05** Таямніцы следства.
**13.40** Каробка перадач.
**14.15** Вакол планеты.
**15.00** Навіны.
**15.15** Твой горад.
**15.30** Меладрама «У ракі два берагі».
**17.20** Нашы.
**17.35** Мастацкі фільм «Падаруй мне нядзелю».



**20.00** Галоўны эфір.
**21.20** Навіны надвор'я.
**22.15** Дыялогі аб цывілізацыі.
**22.50** Меладрама «Масква - Лапушкі».
**00.35** Мастацкі фільм «Кухня» (Расія).

### АНТ

**07.00** АНТ прадстаўляе. «Нядзельная раніца».
**08.00** Нашы навіны.
**09.00** Нашы навіны.
**09.05** Нядзельная пропаведзь (з субтытрамі).
**09.20** Смяшарыкі.
**09.35** Шалапутныя нататкі.
**09.55** Пакуль усе дома.
**10.40** «Фазэнда».
**11.10** Мастацкі фільм «Сфера вядзьмарства».
**12.35** Святочны канцэрт.
**14.00** Шматсерыйны фільм «Ой, ма-мач-кі!».
**16.00** Нашы навіны.
**16.15** Навіны спорту.
**16.20** «Тэорыя змовы».
**17.15** Цюцелька ў цюцельку.
**20.00** Контуры.
**21.05** Вызваленая Еўропа.
**22.00** Мастацкі фільм «Стальны матылёк».
**00.00** Містычны трылер «Омэн».

### СТВ

**06.05** Серыял «Студэнты International».
**07.15** «Сардэчна паскардзіцца».
**07.35** Тэлечасопіс «Аўтапанарама».
**08.20** Фільм «Вяртанне Супермэна».
**11.00** «Вялікі сняданак».
**11.40** Серыял «Салдаты».
**13.30** «24 гадзіны».
**13.40** Серыял «Next-2».
**15.25** Канцэрт Міхаіла Задорнава.
**16.00** «Цэнтральны рэгіён».
**16.30** «24 гадзіны».
**17.20** «Ваенная таямніца».
**19.30** «Тыдзень». Інфармацыйна-аналітычная праграма.
**20.25** «Прышэльцы-2». Мастацкі фільм.
**22.30** Зорны рынг.
**23.30** «Масква. Дзень і ноч».
**00.20** Серыял «Next-2».

### Беларусь 2

**06.55** Школа чараўніц.
**08.10** Серыял «Шчаслівыя разам».
**09.45** Турыст.
**10.00** Я хачу гэта ўбачыць!
**10.35** Тэлебарометр.
**10.40** Fitnews.
**11.20** Ваша лато.
**11.50** Латарэя «Пяцёрачка».
**12.05** Кітай: інструкцыя па вывучэнні.
**12.35** Зразумець і абясшкодзіць.
**13.10** Серыял «Мая цудоўная няня».
**15.10** Фантастычны баявік. «Успомніць усё».
**17.20** Comedy Woman.
**18.35** Ікра.
**19.15** Суперлато.
**20.05** Тэлебарометр.
**20.40** Кіпень.
**21.00** Футбол.
**21.35** Спортлато 6 з 49, КЕНО.
**21.45** Серыял «Шчаслівыя разам».
**23.45** Вышэй за дах.
**00.15** Мастацкі фільм «Таўстун на рынзе».

### Беларусь 3

**07.55** Калейдаскоп.
**08.05** «Размовы пра духоўнае».
**08.15** «Емяльян Пугачоў». Гістарычная драма. Фільм першы «Нявольнікі» (СССР, 1978 г.).
**09.20** «Емяльян Пугачоў». Гістарычная драма. Фільм другі «Воля, крывёю амытая» (СССР, 1978 г.).
**10.45** «Подых струн». Музычная праграма. Госць: Аляксандр Памідораў.
**11.25** «Наперад у мінулае».
**11.50** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**12.45** «Калі ласка, або Пабочным асобам уваход забаронены!» Сямейная камедыя (СССР, 1964 г.).
**13.55** Калейдаскоп.
**14.05** «Размовы пра духоўнае».
**14.15** «Вепскі запавет». Дакументальны фільм.
**15.10** «Суседзі». Вясковая камедыя (СССР, 1979 г.).
**16.15** Калейдаскоп.
**16.25** «Размовы пра духоўнае».
**16.35** «Залаты Віцязь. Мікалай Бурляеў». Дакументальны фільм пра народнага артыста Расіі.
**17.35** «Андрэй Рублёў». Гістарычная драма. 1-я серыя (СССР, 1966 г.).
**18.55** «Беларускі народны каляндар». Сёмуха.
**19.10** «Андрэй Рублёў». Гістарычная драма. 2-я серыя (СССР, 1966 г.).
**20.45** Калыханка.
**21.00** Хіт-парад. «Сто песень для Беларусі».
**21.55** «Бяседа». 20 гадоў.
**23.25** «Культпрасвет».
**00.00** Калейдаскоп.
**00.10** «Размовы пра духоўнае».

### Беларусь 5

**07.00** PRO спорт. Навіны.
**07.45** Гандбол. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Другі матч.
**09.15** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Фінал чатырох. Першы паўфінал. «Барселона» (Іспанія) - «Візэ» (Польшча).
**10.40** Баскетбол. НБА. Фінал Заходняй канферэнцыі. Шосты матч. «Х'юстан» - «Голдэн Стэйт».
**12.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Фінал чатырох. Другі паўфінал. «Кіль» (Германія) - «Веспрэм» (Венгрыя).
**14.25** Гандбол. Чэмпіянат Беларусі. Фінал. Трэці матч. Прамая трансляцыя.
**16.10** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Фінал чатырох. Матч за трэцяе месца. Прамая трансляцыя.
**17.55** Фактар сілы.
**18.25** Футбол. Ліга чэмпіёнаў УЕФА. Відэачасопіс.
**18.55** Гандбол. Ліга чэмпіёнаў. Фінал чатырох. Фінал. Прамая трансляцыя.
**20.40** Футбол. Чэмпіянат Беларусі. БАТЭ (Барысаў) - ФК «Мінск». Прамая трансляцыя.
**22.40** Змешаныя адзінаборствы. М-1 Global.
**00.40** PRO спорт. Навіны.

### БЕЛСАТ tv

**07.00** Студыя «Белсат».
**07.10** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**07.45** Казкі для дзетак.
**08.10** Зона «Свабоды» (аналітычная праграма).
**08.45** «Білорус», дак. фільм.
**09.30** Над Нёмнам (тэлечасопіс).
**09.45** Два на два (тэледыскусія): Ірына Шумская і Віктар Яўмененка: Краязнаўцы на гістарычным фронце інфармацыйнае вайны.
**10.20** Рэпартэр (публіцыстычная праграма).
**10.45** Маю права (юрыдычная праграма).
**11.10** Казкі для дзетак.
**11.35** «Чароўнае дрэва», серыял.
**12.35** Мова нанова: «Вёска».
**12.50** ПраСвет (інфармацыйна-публіцыстычная праграма).
**13.25** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**14.10** Відзьмо-невідзьмо (інфармацыйна-забаўляльны агляд).
**14.40** «Хадаркоўскі», дак. фільм.
**16.30** «Дробныя круцялі», камедыя.
**18.05** Форум (ток-шоу): Нам засталася спадчына.
**18.45** «Час гонару», тэлесерыял.
**19.30** Кулінарныя падарожжы Робэрта Макловіча.
**19.55** Гісторыя пад знакам Пагоні (спазнаваўчая праграма): Бітва пад Палонкай.
**20.05** Эксперт (сатырычная праграма).
**20.30** «Джон Кенэдзі. Невядомы прэзідэнт», дак. фільм, 2012 г., Германія.
**21.25** Кінаклуб: «Жыццё тае іншай».
**21.40** «Жыццё тае́ іншай», маст. фільм, 2012 г., Бельгія–Францыя–Люксембург.
**23.20** «Білорус», дак. фільм.
**00.00** «Mad Men. Утрапёныя IV», серыял.
**00.50** «Хадаркоўскі», дак. фільм.

# Шаноўныя чытачы!

**На жаль, газету «Новы час» немагчыма купіць у шапіках або крамах. Няма нас і ў дзяржаўнай сістэме распаўсюду Белпошты. Але можна падпісацца на «Новы час», і кожны тыдзень атрымліваць газету.**

Падпісацца можна на любую колькасць месяцаў, афарміўшы банкаўскі ці паштовы перавод і накіраваўшы копію плацёжнага дакументу на адрас рэдакцыі. (Глядзіце ўзоры квітанцый). **Нашы рэквізіты: рахунак 301274 1108019 у аддзяленні №53 9 ОАО «Белінвестбанка», код банка 153 10073 9. Адрас банка: 22 0004, Мінск, вул. Калектарная, 11. Адрас рэдакцыі: 22 0113, Мінск, вул. Мележа, 1, офіс 1234.**

**Акрамя таго падпісацца можна ў рэдакцыі і ў нашых рэгіянальных прадстаўнікоў:**
**Магілёў:** (8 029) 930 79 22, Міхась
**Мінск:** (8 029) 178 31 68, Вольга
**Слуцк:** (8 029) 364 42 60, Зінаіда
**Гомель** (8 029) 697 82 75, Аляксандр

БЕЛПОЧТА

ф. ПС 112

**ЭЛЕКТРОННЫЙ ДЕНЕЖНЫЙ ПЕРЕВОД**

№ ______ (вход, по карте отправки)

ВЫРУЧКА ☐ НАЛОЖЕННЫЙ ПЛАТЕЖ ☐

(сумма цифрами) (сумма прописью)

ПОЛУЧАТЕЛЬ___ Г-та «Новы час», р/с 3012741108019 отд. №539 ОАО «Белинвестбанк», код 153100739, УНН 190790926

КУДА 220004, г. Минск, ул. Коллекторная, 11
почтовый код, адрес получателя, телефон)

ОТПРАВИТЕЛЬ ______________________
почтовый код, адрес отправителя, телефон)

АДРЕС ______________________

Доставка ☐ уведомление ☐ простое ☐ заказное ☐ электронное

(назначение платежа)

(письменное сообщение)

Отметки отделения почтовой связи места приема:
(почтовый код, оттиск контрольно-переводной печати, кол. шт.)
№ перевода по ф. 5 _____________
Время приема _______ ч. _____ мин.
Подпись

# Паважаныя чытачы!

Падпісны кошт аднаго нумара газеты 4500 руб., аднаго месяца — 18000 руб.
**ДЗЯКУЙ ВАМ ЗА ПАДТРЫМКУ!**
«Новы час» запрашае да супрацоўніцтва распаўсюджвальнікаў газеты ва ўсіх рэгіёнах Беларусі.
**Даведка па тэл: (8 029) 651-21-12.**



КВИТАНЦИЯ

ЧИУП «Час навінаў»
(получатель платежа)
отд. №539 ОАО «Белинвестбанк»
(наименование банка)

| Счет получателя | 3012741108019 | Лицевой счет | Код 739 |
|---|---|---|---|
| УНП* | 190790926 | | |

(фамилия, имя, отчество, адрес)

| Вид платежа | | | Дата | Сумма |
|---|---|---|---|---|
| Период подписки указывает абонент | | | | |
| | | | | |

Плательщик

Пеня ________
Кассир Всего ________



# Маршал ідзе на выбары

Алег НОВІКАЎ




**Прэзідэнцкія выбары ў Польшчы прыйшліся на 80-ю гадавіну смерці Юзафа Пілсудскага — аўтара адраджэння польскай дзяржаўнасці. Натуральна, палітычныя тэхнолагі кандыдатаў кінуліся рабіць піяр на легендзе пра маршала.**

12 мая 1935 года Польшча пагрузілася ў татальны смутак. Пайшоў з жыцця жывы сімвал і нават інстытут яе дзяржаўнасці. Юзаф Пілсудскі, які напрыканцы жыцця фактычна адышоў ад палітыкі, усё роўна заставаўся гарантам сістэмы, якую сам і стварыў. Нават у суседнім СССР, дзе Пілсудскага часта называлі фашыстам, быў абвешчаны афіцыйны смутак. Ігнараваць ролю нябожчыка ў адраджэнні Польшчы было нельга. «Усе мы — сіроты. Ужо не будзе тых густых броваў, пад якімі кожны мог знайсці абарону», — пісаў у майскія дні 80 гадоў таму адзін з палякаў. Ён жа прызнаваў, што ўвесь свет стаў сведкам нараджэння міфу пра Пілсудскага.

Міф пра Пілсудскага захаваўся да нашых дзён. Інакш бы падчас цяперашніх выбараў маршал, дзякуючы гадавіне сваёй смерці, не стаў бы фактычным удзельнікам выбарчай кампаніі. Аўтарытэтны правы часапіс «Do Rzeczy» так заклікаў чытачоў напярэдадні дня галасавання: «На прэзідэнцкіх выбарах галасуйце за Пілсудскага!».

Найбольш выкарыстаў тэму Пілсудскага правы папуліцкі кандыдат Павел Кукіз. У адным са сваіх рэкламных ролікаў Кукіз быў паказаны побач са старым радыёпрыёмнікам, што транслюе прамову маршала 1924 года: «На мой погляд, галоўным пастулатам у адносінах заўсёды ёсць дамова і падпарадкаванасць умовам яе падтрымання. І дворнік, што прыбірае вуліцу, і міністр, які кіруе краем, для сумеснай справы з іншымі ставяць свае ўмовы і гатовыя прымаць умовы. І калі б яны ўзаемна, лаяльна і дысцыплінавана іх прытрымліваліся, жыццё выглядала б інакш». Праслухаўшы выступ Пілсудскага, Павел звяртаецца да гледача: «Польшча мае тыя ж праблемы, што і 90 гадоў таму. Яна падзеленая, да яе няма павагі. Мы павінны паверыць у сябе і сябе паважаць».

Трэба прызнаць, што ролік вельмі спадабаўся аўдыторыі. Праціўнікам Кукіза заставалася толькі прыдумаць анекдот, які высмейвае электарат Кукіза (як правіла, гэта людзі з сацыяльных нізоў). Анекдот наступны. Сустракаюцца два фаната Кукіза. Адзін пытае: «Хто такі Пілсудскі?». Другі адказвае: «Ну даеш, гэта голас з радыё, што падтрымаў Кукіза».

Практычна ўсе, за выключэннем левых, кандыдаты кінуліся ўзгадваць Юзафа Пілсудскага. Да магілы маршала на кракаўскім Вавелі стварылася сапраўдная чарга яго фанатаў. Спачатку там пабываў цяперашні прэзідэнт Браніслаў Камароўскі, пасля — яго галоўны праціўнік па другім туры Анджэй Дуда, якога, дарэчы, яго партыйны бос Яраслаў Качыньскі наўпрост назваў новым Пілсудскім. Яшчэ адзін кандыдат, ліберал-кансерватар Януш Корвін-Міке, выдаў плакат, на якім ён выяўлены побач з маршалам.

З улікам таго, што ў біяграфіі Пілсудскага дастаткова супярэчлівых фрагментаў, варта задацца пытаннем: які Пілсудскі запатрабаваны ў цяперашняй Польшчы? Як іранізуе партал «Natemat», стопрацэнтны клон Пілсудскага выглядаў бы зараз вельмі забаўна. Такі палітык павінен быў публічна падтрымліваць права вайскоўцаў на дзяржаўны пераварот, накшталт таго, што арганізаваў Пілсудскі ў 1926 годзе. Ён таксама павінен быў ганарыцца сваім сяброўствам у Польскай партыі сацыялістычнай, у складзе якой пачынаў Юзаф. Калі ўжо цалкам арыентавацца на палітычную спадчыну Пілсудскага, дык трэба абяцаць выбаршчыкам стварэнне ў выпадку перамогі новай Бярозы-Картузскай — лагеру для палітычных апанентаў рэжыму.

Цяперашнія прыхільнікі Пілсудскага відавочна звяртаюць увагу выключна на некаторыя старонкі жыцця маршала. Паводле таго ж Кукіза, «Пілсудскі функцыянуе як ахоўнік дэмакратыі, бацька, які клапоціцца пра народ як пра дзіця: на яго можна часам насварыцца або пазбавіць нейкіх вольнасцяў», — лічыць Кукіз. Дарэчы, ён таксама прапанаваў адрадзіць у Польшчы т. зв. стралецкі рух — патрыятычныя вайскова-спартыўныя арганізацыі, на базе якіх у 1914 годзе Пілсудскі сфармаваў свой славуты Легіён.

Часопіс «Do Rzeczy» лічыць, што Пілсудскі пакінуў напрацоўкі для знешнепалітычнай дактрыны Польшчы. «Пілсудскі не хацеў Польшчы ў рамках імперыі цароў або саветаў. Яго цікавіла выключна яе крыштальная вольнасць», — аргументаваў пазіцыю выдання яго рэдактар Вальдэмар Лысяк. Правая прэса таксама не прайшла міма ўкраінска-польскіх адносін у часы маршала, як бы даводзячы, што Пілсудскі зразумееў ролю Украіны для сістэмы польскай бяспекі.

Можна сказаць, што ў цяперашняй Польшчы запатрабаваны вобраз Пілсудскага як моцнага патэрналісцкага палітыка, які стаіць над інтарэсамі партыйных і эканамічных кланаў, здольны абараняць інтарэсы краіны ў свеце, і абараняць яе межы на ўсходзе.

Напрыканцы варта сказаць, што палітолагі і гісторыкі не ў захапленні ад таго, што Пілсудскі стаў адным з суб'ектаў польскай палітыкі. Яны баяцца, што культ маршала прывядзе да прымітывізацыі яго вельмі складанай і супярэчлівай фігуры. Як казаў прафесар варшаўскага ўніверсітэта Войцех Яблонскі, «цяперашняя палітычная прапаганда пабудавана на неадукаванасці электарату. Мала хто ведае, што Пілсудскі дэ-факта быў дыктатарам, пагарджаў нормамі дэмакратыі». На думку Яблонскага, «профіль Пілсудскага сёння лепш за ўсё пасуе Корвіну-Міке — кактэйль манархізму, аўтарытарызму і радыкальнага лібералізму».

## ЯНЫ ПРА НАС. ЗАМЕЖНАЯ ПРЭСА ПРА БЕЛАРУСЬ

Прычына пільнай увагі Лукашэнкі да флагманаў беларускай прамысловасці — у імкліва падаючых аб'ёмах продажаў і вытворчасці. Па выніках першага квартала, аб'ём прамысловай вытворчасці ўпаў на 7,3%. Тэндэнцыю фіксуе і статыстыка — 100 тысяч чалавек у першым квартале працавалі з няпоўнай занятасцю, што ў два разы больш за аналагічны паказчык у мінулым годзе. Як адзначаюць эксперты, прычына праблем беларускай прамысловасці — яе амаль 100-працэнтная арыентацыя на расійскі рынак. Адсутнасць дыверсіфікацыі прывяла да таго, што падзенне попыту на рынку краіны — асноўнага гандлёвага партнёра абярнулася спадам продажаў і вытворчасці ў Беларусі. Знайсці новыя рынкі — справа няпростая і няхуткая.

**«Независимая газета» (Расія)**

Беларускі ўрад рыхтуе пакет мер, якія павінны кардынальна скараціць паток імпартных тавараў на рынак краіны. Перш за ўсё гэта тычыцца аўтамабіляў, адзення і абутку, тэлевізараў і халадзільнікаў. Літоўскі бізнес не бачыць у гэтым вялікіх пагроз, паколькі і так няшмат экспартуе гэтых тавараў у Беларусь, а айчынныя гандляры нават спадзяюцца, што больш беларусаў будзе прыязджаць у Літву за пакупкамі.

**«Verslo zinios» (Літва)**

Пасля таго, як Аляксандр Лукашэнка ў разгар вясны выдаў дэкрэт «Аб папярэджанні сацыяльнага ўтрыманства», на прасторах Мытнага саюза выразна запахла савецкім духам: гэта мы калісьці праходзілі.

**info-tses.kz (Казахстан)**

Атрымаць інфармацыю пра беларусаў-добраахвотнікаў вельмі складана, бо ніхто і ніколі не сістэматызаваў яе. Таму дадзеныя аб агульнай колькасці ў розных крыніцах розныя. Так, беларуская апазіцыя апублікавала лічбу — больш за 200 байцоў. Аднак пасля апытання ўсіх добраахвотніцкіх злучэнняў «Тиждень» прыйшоў да высновы, што рэальнай з'яўляецца лічба 80–100 чалавек за час канфлікту ў складзе ўсіх батальёнаў. Па словах беларусаў, з якімі нам удалося пагутарыць, добраахвотнікі ехалі пераважна з цэнтральных абласцей краіны і Мінска. З больш русіфікаванага прамысловага ўсходу Беларусі не прыбыў амаль ніхто.

**«Тиждень» (Украіна)**

Пытанне, навошта ў Беларусі прыдумалі новы знак Перамогі, задаюць многія. У ліку аргументаў «за» пераважвае галоўны: «Перамога ў Расіі з Беларуссю агульная, але кожная краіна ідзе сваім шляхам». Значыць, і знакі могуць быць розныя.

**Delfi (Літва)**

Міністр унутраных спраў Беларусі генерал Ігар Шуневіч ва ўгодкі Дня Перамогі ў Мінску з'явіўся ў форме НКУС. Сам кіраўнік МУС называе гэты жэст праявай павагі да сваіх папярэднікаў. Аднак беларускія апазіцыянеры ўпэўненыя, што такім чынам улада дасылае ім недвухсэнсоўны сігнал.

**«Gazeta Wyborcza» (Польшча)**

Можна казаць, што ўлада спрабуе, як і раней, вырашаць праблему эканомікі адміністрацыйнымі метадамі. Прэзідэнт Лукашэнка галоўную адказнасць за сітуацыю з занятасцю ў сферы прамысловасці ўсклаў на кіраўнікоў прадпрыемстваў. Кожны чалавек, па яго ных нядаўніх словах, павінен мець права на працу і павінен атрымаць магчымасць працаваць для таго, каб былі сродкі для ўтрымання сям'і. Тыя, хто гэтага не разумее, павінны працаваць на іншым месцы. Разам з тым сітуацыя з ростам беспрацоўя прагрэсуе: на пачатак года яна была на ўзроўні 0,5 працэнта, аднак да канца першага квартала павялічылася ў два разы. З-за скарачэння аб'ёмаў вытворчасці адчувальна расце і няпоўная занятасць. Адміністратыўныя меры не дапамогуць выправіць сітуацыю. У выпадку адсутнасці росту расійскага рынку або адсутнасці іншых рынкаў збыту на фоне спаду вытворчасці, краіну чакаюць негатыўныя наступствы, у тым ліку і рост беспрацоўя.

**«Биржевой лидер» (Украіна)**

22 мая 2015 | № 20 (437) Новы час

## МІЖНАРОДНЫЯ НАВІНЫ

### ГЕРМАНІЯ. Крызіс еўрафобаў

На радасць усім нямецкім прыхільнікам Еўрасаюза ў крызіс уступіла партыя «Альтэрнатыва для Германіі» (AfD) — галоўны цэнтр еўрафобаў ФРГ. На мінулым тыдні шэраг еўрадэпутатаў ад AfD заявілі аб стварэнні аб'яднання Weckruf 2015, што па сутнасці значыць партыйны раскол, які, без сумневу, паслабіць пазіцыі праціўнікаў еўраінтэграцыі. Шчыра кажучы, цяжка зразумець прычыны расколу, пралогам якога была доўгая спрэчка паміж Фраўке Петры (Frauke Petry) — сустаршынёй «Альтэрнатывы для Германіі» і Берндам Луке (Bernd Lucke), заснавальнікам партыі і цяперашнім еўрадэпутатам. Яны доўга сварыліся, пасля чаго Луке прыняў рашэнне пра стварэнне новай структуры. Пакуль цяжка прагназаваць, якая з фракцый зможа разлічваць на тое, каб захапіць спадчыну AfD, і перш за ўсё падпарадкаваць фракцыі ў зямельных парламентах і на месцах. Праўда, наўрад ці крах «Альтэрнатывы для Германіі» будзе значыць крах усяго руху еўрафобаў у краіне. Калі прыняць пад увагу папулярнасць еўрафобскіх настрояў, можна не сумнявацца, што на змену прыйдзе новая палітычная сіла. Палітолагі звяртаюць увагу на выніка выбараў у Брэмене, дзе ў ратушу ледзь не трапіла правапапулісцкая групоўка «Незалежныя грамадзяне».

**Паводле нямецкай прэсы**

### УКРАІНА. Парадоксы дэкамунізацыі

Падпісаны Пятром Парашэнкам закон пра дэкамунізацыю ва Украіне дадаў галаўнога болю мэрыям Івана-Франкоўска і Хмяльніцкага. Абодва абласныя цэнтры трапляюць пад новы закон, паколькі атрымалі свае імёны ў часы СССР, і цяпер гарады мусяць на працягу 6 месяцаў вярнуць сабе гістарычныя назвы — Станіслаў і Праскураў адпаведна. Аднак такая тапаграфічная рэформа выглядае вельмі супярэчліва з патрыятычнага пункту гледжання. Станіслаў — гэта імя польскага караля, у гонар якога быў заснаваны горад. Вяртанне яго на карту можа нагадаць пра тое, што рэгіён быў часткай Польшчы. Таксама цяжка ўявіць, каб нехта замахнуўся на імя ўкраінскага героя Багдана Хмяльніцкага. Чыноўнікі абодвух гарадоў маюць надзею, што такога кшталту калізіі будуць растлумачаны ў хуткім дадатковым дакуменце да закону па дэкамунізацыі, што зараз пішуць у адміністрацыі Парашэнкі.

**Паводле ўкраінскай прэсы**

### БРАЗІЛІЯ. Што рабіць з імігрантамі?



У Бразіліі прайшлі першыя вулічныя акцыі супраць прытоку імігрантаў, якія галоўным чынам едуць з Сірыі і Гаіці. Такія акцыі выглядаюць дастаткова дзіўна, паколькі ніколі такога пытання не было, хаця б таму, што Бразілія ніколі не карысталася іміджам багатай і развітай краіны. Аднак часы мяняюцца, і 300 еўра заробку штомесяц (прыкладна столькі атрымліваюць імігранты, якія працуюць без кантрактаў) выглядаюць вельмі прываблівa для людзей з краін Трэцяга свету, не кажучы пра краіны, дзе ідуць войны. Так ці інакш, з'яўленне нелегалаў прывяло да росту беспрацоўя і крыміналу. У цяперашні час правая апазіцыя ў парламенце ўжо патрабуе новыя антыімігранцкія законы. Аднак тут ёсць адна праблема: Бразіліі трэба каланізаваць Амазонію — вялізарны рэгіён унутры краіны. Вырашыць гэтую праблему планавалася таксама за кошт імігрантаў. Так, у мінулым годзе ўрад даў згоду на прыезд сюды 2000 чалавек з Сірыі, прычым, па словах чыноўніка, гэтага яшчэ мала. Як бразільцы будуць вырашаць дылему — змагацца з іміграцыяй і адначасова прыцягваць імігрантаў — пакуль не зразумела.

**Паводле бразільскай прэсы**

### ТАДЖЫКІСТАН. Перапіс прастытутак і гомасексуалістаў

Міністэрства аховы здароўя і сацыяльнай абароны насельніцтва Таджыкістана аспрэчыла лічбы, агучаныя Глабальным фондам па барацьбе са СНІДам, туберкулёзам і малярыяй пра тое, што ў краіне налічваецца 14 тысяч прастытутак і 30 тысяч гомасексуалістаў. Па словах кіраўніка ведамства, лічбы фонду грунтуюцца на эпідэміялагічных дадзеных. Таджыкскія ўлады спасылаюцца на тое, што ў Таджыкістане няма ніводнага зарэгістраванага выпадку перадачы ВІЧ праз гомасексуальную сувязь. Каб пацвердзіць ілжывасць дадзеных фонду па барацьбе са СНІДам, дзяржаўныя структуры пачалі дакладны падлік колькасці гэтай катэгорыі людзей у краіне. Адначасова перапісам наркаманаў і прастытутак вырашылі заняцца ў таджыкскім МУС. Цікава, што ў мінулым годзе МУС сам казаў пра рост колькасці амаральных злачынстваў. І нават правёў рэйд у Душанбэ, па выніках якога было арыштавана 500 чалавек.

**Паводле расійскай прэсы**

# Фактар Гангадзэ

Алег НОВІКАЎ

**Год таму ва Украіне фактычна пачаўся перагляд скандальнай справы забітага ў 1999 годзе журналіста Георгія Гангадзэ. Каму гэта было патрэбна, чаму следства дасюль не можа прасунуцца, і чым скончыцца працэс?**



На цяперашні момант афіцыйная версія забойства Георгія Гангадзэ, заснавальніка рэсурсу «Украінская праўда», выглядае наступным чынам. У жніўні 2000 года міністр МУС Украіны Юрый Краўчанка даў генералу міліцыі Аляксею Пукачу загад ліквідаваць журналіста. Атрымаўшы загад, Пукач прапанаваў сваім падначаленым вывезці Гангадзэ ў лес, збіць і запалохаць. Пад выглядам таксістаў міліцыянты схапілі журналіста, вывезлі яго ў лес, дзе выпадкова забілі. Пукача злавілі ў 2009 годзе ў адной з вёсак Жытомірскай вобласці, дзе ён хаваўся пад чужым прозвішчам. 29 студзеня 2013 года суд пазбавіў яго звання генерала і прысудзіў да пажыццёвага зняволення.

Нават не дасведчаны ў аспектах украінскай палітычнай сітуацыі чалавек адразу пабачыць тут лагічныя нестыкоўкі. Па-першае, нашто Краўчанку (ён потым быў знойдзены забітым) і Пукачу арганізоўваць выкраданне чалавека і забойства? Сам Пукач упарта адмаўляецца казаць пра матывы, а тым больш называць імя чалавека, які замовіў яму забойства. Між тым, і дзіця зразумела, што пайсці на такі ўчынак можна толькі ў выпадку, калі замоўнік плаціць шмат грошай або загад сыходзіць з самага верху.

Узнікае лагічнае пытанне: чаму следства не пажадала прыцягнуць да справы т. зв. «стужкі Мельнічэнка» — запісы размоваў Кучмы і яго сілавікоў, якія рабіў адзін з ахоўнікаў Кучмы. На адным з запісаў можна пачуць, як Леанід Кучма вельмі негатыўна ўзгадвае журналіста «Украінскай праўды». Хаця міжнародныя эксперты аказаліся няздольнымі ўсталяваць сапраўднасць запісаў, ва Украіне хапала і хапае прыхільнікаў версіі пра след Кучмы.

З улікам апісанага вышэй, не дзіўна, што пасля перамогі Майдану ўсе пачалі казаць пра неабходнасць новага следства па справе Гангадзэ. «Генпракуратура пераглядае справу журналіста Георгія Гангадзэ і правярае датычнасць да яе другога прэзідэнта Украіны Леаніда Кучмы», — пра гэта заявіў выканаўца абавязкаў генеральнага пракурора Алег Махніцкі яшчэ ў красавіку мінулага года. «Папярэдняе кіраўніцтва Украіны скрала дзясяткі мільярдаў долараў у краіны, і на дадзены момант ідзе як перагляд справы супраць Леаніда Кучмы, так і супраць іншых чыноўнікаў, якія маюць дачыненне да дадзеных злачынстваў», — сказаў тады Махніцкі.

Нечакана за перагляд справы выступіў і Пукач, які падаў заяву ў апеляцыйны суд. Пукач заявіў пра ціск з боку былой каманды пракурораў. Са слоў абвінавачанага, пракуроры не дазвалялі яму называць прозвішча Кучмы сярод ланцуга заказчыкаў забойства Гангадзэ, а таксама прымушалі яго даваць ілжывыя паказанні.

Прайшоў год. Ніякіх заўважных рухаў у справе Гангадзэ за гэты час не адбылося, хаця імя Гангадзэ час ад часу прысутнічае ў медыйнай прасторы. Чаму мае месца сабатаж суддзяў? Каму выгадна падтрымліваць інтарэс да гэтай справы? Спектр пытанняў, на якія няма адказаў, правакуе грамадства прапаноўваць самыя незвычайныя версіі.

Самая простая версія — сістэма, ахвярай якой стаў Гангадзэ, захавалася нягледзячы на рэвалюцыйную рыторыку. «Сістэма Кучмы, якая была створаная ў 1990-я, да гэтага часу існуе. Сам Кучма і многія яго людзі, выхадцы з яго палітычнага гнязда, самі да гэтага часу актыўна прысутнічаюць у палітычным асяроддзі. Яны не зацікаўленыя, каб справа расследавалася», — сцвярджае Аляксандр Кляшкевіч, адзін з праваабаронцаў. Ён таксама прыводзіць цікавую фактуру. Напрыклад, без рэакцыі ўлады застаўся ліст прадстаўніка Кангрэсу ЗША Стыва Коуэна, у якім вышэйшае кіраўніцтва Украіны прасілі ўзяць справу Гангадзэ пад свой кантроль.

Аднак не ўсё так проста. Шмат хто лічыць, што падвешаны характар справы Гангадзэ выкліканы хутчэй задачай клана Парашэнкі стрымліваць Кучму і яго атачэнне. Леанід Кучма і звязаныя з ім кланы (напрыклад, Пінчука) дастаткова моцныя. Таму, магчыма, Парашэнка і цягне як мага даўжэй гэтую справу, каб трымаць кучмаўскіх пад кантролем.

Абсалютна новы памер справа забітага журналіста набыла пасля таго, як у красавіку гэтага года ў Кіеве быў на вуліцы забіты журналіст Алесь Бузіна — адзін з самых вядомых крытыкаў Майдана і новага рэжыму. Апазіцыя ахвотна праводзіць паралелі паміж Бузіной і Гангадзэ.

Да гэтага таксама падключаюцца расійскія медыя. На іх старонках высоўваецца новы тэзіс пра тое, што ступар у справе Гангадзэ звязаны з заходнімі спецслужбамі, якія маглі мець дачыненне да інцыдэнту. Напрыканцы 1990-х гадоў на Захадзе, быццам, адпрацоўвалі тэхналогіі масавай мабілізацыі за кошт рэзанансных забойстваў. Сапраўды, навіна пра жудаснае забойства практычна нікому не вядомага інтэрнэт-журналіста пасля публікацый у апазіцыйных СМІ выклікала шок у масавай свядомасці і выдавочны дрэйф палітычных сімпатый. Тады ўпершыню цэлая арганізацыі камуністычнай партыі Усходняй Украіны пачалі ўступаць да той жа Юліі Цімашэнка.

Сітуацыю вакол справы Гангадзэ каментуе кіеўскі журналіст Юрый Дакукін:

— Мяркую, што партыя Майдана вярнулася да справы Гангадзэ таму, што доўгі час гэта было яе фішкай. Аднак у выніку мы атрымалі «глухара». І ў гэтым няма нічога дзіўнага. У свой час краіна жыла іншай тэмай — хто атруціў Віктара Юшчанку? Юшчанка, які нават называў канкрэтныя прозвішчы, пасля прыходу да ўлады забыўся пра той выпадак. Усё таму, што ўкраінская эліта жыве па сваіх правілах. Думаю, з Гангадзэ будзе тое ж самае. Гэта імя паступовa з'явіцца на перыферыі інфармацыйнага поля, і амністыя Пукачу з часам не будзе выклікаць ніякіх асаблівых эмоцый у грамадстве, якое на той момант падсадзяць на новыя сенсацыйныя тэмы. Адзінае, што хочацца, каб такая сітуацыя не паўтарылася з забойствам Нябеснай сотні. Год прайшоў пасля той масакры, аднак следства не прапанавала ніякага цэласнага малюнка той трагедыі.

# Піва і бомбы

Алег НОВІКАЎ

**Нямецкая апазіцыя патрабуе аднавіць следства па тэракту на піўным фестывалі Актобэрфэст у верасні 1980 года — самай буйной тэрарыстычнай атакі ў гісторыі ФРГ.**




Аднарукім пажылым немцам цяпер жывецца вельмі нялёгка. Кожны бязрукі інвалід з'яўляецца ў вачах бюргераў патэнцыйна датачным да самага буйнога тэракту ў пасляваеннай гісторыі краіны. Гаворка пра выбух, што адбыўся вечарам у пятніцу, 26 верасня 1980 года каля грамадскай прыбіральні на славутым піўным фестывалі ў Мюнхене. Каля ўваходу ў прыбіральню спрацавала моцная выбуховая прылада. У выніку тэракту загінулі 13 і былі параненыя 211 наведвальнікаў (дарэчы, нягледзячы на ахвяры, арганізатары фестывалю вырашылі працягнуць яго працу).

Доўгі час лічылася, што злачынства арганізаваў Гундальф Кёлер — правы экстрэміст, які дзейнічаў самастойна. Тое, што ён сам загінуў падчас выбуху, дазволіла паліцыі і спецслужбам вельмі хутка зачыніць справу. У 1982 годзе былі абвешчаныя вынікі следства, якое цалкам ігнаравала версію пра тое, што тэрарыст мог дзейнічаць не адзін. На думку прыхільнікаў гэтай версіі, Кёлер мог быць неяк завязаны з сумна вядомай неанацысцкай групай Хофмана, якая стаяла за шэрагам падобных тэрактаў. Мюнхенскі выбух быў вельмі падобны на тое, што раней рабілі людзі Хофмана.

Паколькі Хофман быў звязаны са спецслужбамі, узнікла думка, што ў Мюнхене адпрацоўвалася стратэгія напружанасці, якая мусіла выклікаць страх у грамадстве і стварыць падставы да прыходу да ўлады ў краіне партыі моцнай рукі.

Нягледзячы на тое, што загадкай выбуху на Акстобэрфэсце за апошнія 35 гадоў займалася шмат журналістаў, сур'ёзных аргументаў супраць афіцыйнай версіі следства яны не знайшлі. Сапраўды пашанцавала толькі супрацоўнікам з каналу ARD. Яны вывучылі ўсе дакументы следства і звярнулі ўвагу на незвычайны момант. На месцы выбуху была знойдзеная адарваная рука, аднак пасля выбуху ніводны аднарукі не звярнуўся ў медычную ўстанову па дапамогу. На гэтым журналісты не спыніліся.

Яны знайшлі аднаго з гановерскіх медыкаў, якая прызналася, што да яе праз нейкі час пасля тэракту прыходзіў аднарукі мужчына. Ён атрымаў нейкую дапамогу, аднак пры гэтым катэгарычна адмовіўся даваць інфармацыю наконт сваёй асобы. Медык запомніла, што твар пацыента быў паранены. Журналісты дапускаюць, што тэрарыст мог прыехаць у Гановер з Мюнхена.

Інфармацыя пра адарваную руку была агучаная ў фільме, які ў лютым выйшаў на экраны і выклікаў палітычны землятрус. Гісторыя пра загадкавага аднарукага цудоўна трапіла на глебу скандалу з групоўкай «Нацыянал-сацыялістычны супраціў». Гэта экстрэмісцкая групоўка доўгі час займалася забойствамі, у тым ліку паліцэйскіх і туркаў, пакуль яе некалькі гадоў таму не арыштавалі.

Фішка ў тым, што ўскосна «Нацыянал-сацыялістычны супраціў» падтрымлівалі інфарматары спецслужбаў — дакладней, Агенцтва абароны канстытуцыі. Гутарка пра так званых V-Leute — неанацыстаў, якіх вярбуюць спецслужбы, прычым за добрыя грошы. Вельмі часта тыя грошы ішлі на падтрымку карычневых. Іншымі словамі, улада сама ўскосна фінансавала неанацысцкае падполле.

Дэпутаты ад партый «Левыя» і «Зялёныя» лічаць, што ў Мюнхене ў 1980 годзе меў месца аналагічны сюжэт. Быццам, Кёлер быў звязаны з V-Leute, якія дапамаглі яму дастаць выбуховыя матэрыялы і прадумаць лагістыку тэракта. Называецца канкрэтная асоба — Франц Лембке, правы экстрэміст і інфарматар, які працаваў на паліцыю. У 1981 годзе ў яго на кватэры падчас вобшуку былі знойдзеныя бомбы і зброя.

Важна таксама тое, што інфармацыя пра магчымае супрацоўніцтва мюнхенскага тэрарыста і V-Leute праз групу Хофмана сустракаецца ў дакументах і прызнаннях агентаў усходненямецкай разведкі. Факты пра гэта ўсплылі яшчэ ў 1994 годзе, калі судзілі аднаго з агентаў Штазі, які працаваў на Захадзе.

«Левыя» і «Зялёныя» ў Бундэстагу даўно заклікаюць да ліквідацыі такой практыкі, як праца з V-Leute. Спецслужбы ў сваю чаргу сцвярджаюць, што адмова ад гэтага правядзе да таго, што дзяржава згубіць магчымасць займацца маніторынгам актыўнасці правых радыкалаў. Цяпер у крытыкаў супрацоўніцтва сілавікоў і неанацыстаў аказаўся моцны козыр, з улікам маштабаў мюнхенскага тэракту. Праўда, для таго, каб давесці сувязь Кёлера і прадстаўнікоў V-Leute, трэба перш за ўсё знайсці невядомага аднарукага. Яго пошукамі зараз і займаецца ўся журналісцкая супольнасць Германіі.

Не чакаючы вынікаў палявання на аднарукага, дэпутаты ад партыі «Зялёныя» і партыі «Левыя» запатрабавалі ад пракуратуры пачаць новае следства па выбуху на Акстобэрфесце. Праўда, федэральная пракуратура ўпарта адмаўляецца перагледзець вынікі следства. Максімум, на што пайшлі ў паліцыі, гэта дапыталі ўжо згаданага вышэй мюнхенскага медыка. Да канца года абяцаюць выдаць справаздачу па новых фактах, выяўленых у апошні час.

Самае цікавае, што вынікі новага следства па выбуху ў Мюнхене патэнцыйна ўдараць па пазіцыях партыі «Левыя». Як вядома, партыя «Левыя» з'яўляецца нашчадкам партыі ўсходненямецкіх камуністаў, а правая прэса ФРГ сцвярджае, што да выбуху на піўным фестывалі маглі быць датычныя агенты Штазі. Як цяпер паступова высвятляецца, выведка ГДР у 1960–1970-я актыўна працавала на правай радыкальнай сцэне ў Заходняй Германіі. Неанацысты ў сваю чаргу актыўна шлі на кантакт з агентамі з-за таго боку Берлінскай сцяны на глебе агульнай нянавісці да Ізраіля.




## ПАЛІТЫКІ ТЫДНЯ

### Энрыке Пенья Ньета



Прэзідэнт Мексікі, старшыня Інстытуцыйна-рэвалюцыйнай партыі (PRI), па словах палітолагаў, прыдумаў хітры план, як захаваць кантроль над парламентам, выбары ў які пройдуць 7 чэрвеня. Паколькі PRI стала сінонімам карупцыі, ён вырашыў інвеставаць рэсурсы ў іншую партыю. Такой партыяй аказалася традыцыйна дастаткова маргінальная Партыя зялёных (PVEM). Апошнім часам лагатып гэтай партыі не знікае з тэлеэкранаў. Партыя праводзіць маштабныя рэкламныя акцыі, накшталт кантролю над якасцю прадуктаў або раздачы бедным медыкаментаў і г.д. Як следства, рэйтынг PVEM імкліва пайшоў уверх. Менш за ўсё задаволеныя такім сцэнарам эколагі, якія справядліва баяцца, што праўладныя зялёныя ў парламенце дыскрэдытуюць экалагічны пратэст. Яны і галоўная апазіцыйная Партыя нацыянальнай акцыі (PAN) патрабуюць зняць зялёных з выбараў, аднак пакуль легальных падстаў для гэтага няма. Эксперты кажуць, што інструменталізацыю партыі можна было прыпыніць за кошт аўтарытэту аднаго з яе лідараў, які выступае супраць брудных гульняў з уладай. Аднак ён знаходзіцца пад пагрозай арышту за ўдзел у акцыі па захопу пустуючага жылля. Застаецца сказаць, што яшчэ ў 2009 годзе PVEM была выключаная з усіх глабальных структур зялёных пасля таго, як заклікала да ўвядзення смяротнага пакарання ў адным са штатаў краіны.

### Жан-Мары Ле Пэн



Як вядома, не так даўно дачка заснавальніка «Нацыянальнага фронту» Францыі дабілася яго выключэння з шэрагаў партыі. Марын мяркуе, што расісцкія і ксенафобскія пасажы Жана-Мары кепска ўплываюць на імідж партыі, асабліва напярэдадні прэзідэнцкіх выбараў 2017-га, на якіх кандыдат ад «Нацыянальнага фронту» можа трапіць у другі тур. Выключаны Жан-Мары заявіў пра намер стварыць новую партыю, якая, па яго словах, будзе канкурэнтам партыі Марын Ле Пэн. Пакуль назіральнікі асцярожна ставяцца да гэтага намеру. Па-першае, ва ўзросце Жана-Мары (яму 85 гадоў) вельмі цяжка займацца партыйным будаўніцтвам у нацыянальным маштабе. Па-другое, не зразумела, адкуль ініцыятар новай партыі знойдзе кадры. Нават тыя, хто сімпатызуе Ле Пэну ў Нацыянальным фронце, не рызыкнуць ісці супраць Марын, перш за ўсё памятаючы, як сам Жан-Мары ў свой час жорстка паводзіў сябе з любой унутрыпартыйнай фрондай. Застаецца сказаць, што запуск новага партыйнага праекту Ле Пэн плануе на сярэдзіну лета.

### Ігар Дадон



Лідар Партыі сацыялістаў Рэспублікі Малдова, якая лічыцца галоўнай прамаскоўскай партыяй у краіне, пачынае незвычайную кампанію па інфармаванні насельніцтва пра цяжкае становішча малдаван пры румынах (1918–1940). Пра гэта Дадон заявіў на прэс-канферэнцыі. Па яго словах, ПСРМ дае старт нацыянальнай кампаніі «Малдова без алігархаў, Малдова без юніяністаў!». У рамках кампаніі ПСРМ будзе таксама збіраць подпісы ў падтрымку заканадаўчай забароны прарумынскіх (юніянісцкіх) арганізацый у Малдове. Узняцца на барацьбу з юніяністамі сацыялістаў прымусіла масавае шэсце прыхільнікаў аб'яднання Малдовы і Румыніі, што мела месца 19 мая ў Кішынёве. Шмат хто згодны, што гэта была рэпетыцыя пратэстаў, якія могуць пачацца ў выпадку перамогі прарасійскай апазіцыі на мясцовых выбарах 16 чэрвеня. Праеўрапейскія сілы маюць слабыя шанцы захаваць сталічную мэрыю, а поспех сацыялістаў можа значыць пачатак павароту краіны ў бок Масквы. Фактычна, кампанія Дадона — мабілізацыя прарасійскага актыву на выпадак мясцовага Майдану.

# За парогам Перамогі МДБ супраць акаўцаў



Ігар МЕЛЬНІКАЎ

**Дзейнасць жаўнераў Арміі Краёвай на тэрыторыі БССР у пасляваенны час да сённяшняга дня выклікае спрэчкі ў беларускім грамадстве. Паспрабуем разабрацца, што ж на самай справе адбывалася ў сярэдзіне 1940-х — пачатку 1950-х гадоў.**

## Партызанка: працяг

19 студзеня 1945 года камандуючы падпольнай Арміяй Краёвай генерал Леапольд Акуліцкі выдаў загад аб роспуску польскіх партызанскіх фарміраванняў, якія падпарадкоўваліся ўраду ў Лондане. У дакуменце, у прыватнасці, загадвалася вызваліць жаўнераў ад прысягі, схаваць зброю, пры гэтым камандзірам забаранялася легалізавацца.

У выніку праведзенай у сакавіку 1945 года «чэкісцкай» аперацыі верхавіну акаўскага камандавання падманным шляхам завабілі на «перамовы з маршалам Жукавым», вывезлі ў Маскву і прысудзілі да розных тэрмінаў зняволення.

У ліпені 1945 года ЗША і Вялікабрытанія прызналі новы камуністычны ўрад Польшчы. Здавалася б, што барацьба польскіх партызан скончана. Аднак частка камандзіраў вырашыла працягваць баявыя дзеянні супраць савецкіх улад. У заходніх абласцях БССР былі створаны падпольныя арганізацыі: «Самаабарона гродзенскай зямлі», «Самаабарона Ваўкавыска» і так званы «Шчучынскі ўчастак».

Аналітыкі тагачасных савецкіх спецслужбаў адзначалі: «У канцы 1945 года актывізавалася тэрарыстычная дзейнасць антысавецкага падполля АК, накіраваная на тое, каб паралізаваць дзейнасць вайсковых і партыйных органаў. Пры нападзе на мясцовае насельніцтва бандыты часта з мэтай дыскрэдытацыі савецкага войска пераапранаюцца ў чырвонаармейскую форму. Антысавецкае падполле ўцягвае ў сваю дзейнасць моладзь, падлеткаў, якія толькі што дэмабілізаваліся з Народнага Войска Польскага».

Тактыка дзейнасці акаўцаў на тэрыторыі Заходняй Беларусі ў канцы 1940-х — пачатку 1950-х змянілася. У гэты перыяд яны дзейнічалі малымі групамі (ад 3 да 5 байцоў). Акцыі і напады праводзілі ноччу і адразу адыходзілі ў лес.

У заходнебеларускіх вёсках заставаліся людзі, якія актыўна падтрымлівалі акаўцаў. Так, у справаздачы 284-га палка ўнутраных войскаў НКУС за лістапад 1948 года адзначалася: «Мясцовае насельніцтва, у асноўным польскай нацыянальнасці, аказвае ўсялякую дапамогу бандытам». У іншым дакуменце таго часу падкрэслівалася: «Пасля правядзення акцый банды хаваюцца ў членаў сямей ці давераных асоб. Бандгрупы і асобныя бандыты маюць сярод мясцовага насельніцтва вялікую сетку сувязных і інфарматараў, што дазваляе бандытам пазбягаць удараў з боку нашых вайсковых падраздзяленняў».

У 1948 годзе ў Маладзечанскім раёне з'явіўся атрад, які лічыў сябе «польскім падполлем» і складаўся ў асноўным з мясцовай моладзі. На працягу года яны ажыццявілі напады на 20 спажывецкіх крам і 5 сельсаветаў. У выніку спецаперацыі падраздзяленням МДБ іх удалося знішчыць.

У 1944–1951 гадах на тэрыторыі Полацкай вобласці БССР дзейнічалі атрады АК пад камандаваннем Станіслава Бялуся (псеўданім «Скшэтускі») і Казіміра Стабулянца («Мілаша»). Яны ажыццявілі 76 дыверсійна-тэрарыстычных актаў, забілі 33 супрацоўнікі савецкай улады, абрабавалі 39 крам. У верасні 1951 года супрацоўнікам МДБ удалося заблакаваць акаўцаў на адным з хутароў і ліквідаваць. Па прысуду трыбунала Беларускай вайсковай акругі 10 чалавек былі прысуджаны да вышэйшай меры пакарання, а больш за 22 чалавекі атрымалі па 25 гадоў лагераў.

## Легенда АК з Гродзеншчыны

Сярод кіраўнікоў антысавецкага падполля ў заходніх абласцях БССР варта вылучыць падпаручніка Мячыслава Нядзінскага (псеўданімы «Марскі», «Мэн»). Да вайны ён служыў у польскім 81-м пяхотным палку Гарадзенскіх стралкоў. У яго складзе ў верасні 1939 года прымаў удзел у баявых дзеяннях супраць нацыстаў. Пазней вярнуўся ў Заходнюю Беларусь, дзе ўступіў у падпольны «Саюз узброенай барацьбы».

У 1943 годзе «Марскі» стварыў свой партызанскі атрад, які ўліўся ў 77-ы акаўскі полк, чый баявы шлях азначаны ўдзелам у акцыях супраць нацыстаў на Навагрудчыне і Гродзеншчыне. Пасля вызвалення Беларусі ад нямецка-фашысцкіх захопнікаў польскі афіцэр выступіў за працяг барацьбы за Другую Рэч Паспалітую ў межах да 1939 года, што дазволіла яму сабраць вакол сябе значныя сілы, якія аб'ядналіся ў так званую «Самаабарону Гарадзенскай зямлі».



Анатоль Радзівонік са сваімі жаўнерамі, 1947 год

**З 1944 па 1947 гады было арганізавана 575 нападаў і 39 дыверсій, загінулі 96 супрацоўнікаў міліцыі і МДБ, 107 чырвонаармейцаў, 290 партыйных актывістаў і 1031 грамадзянская асоба**

Зімой 1945–1946 гадоў у адным з баёў «Марскі» быў паранены. Вясной атрад налічваў каля 70 байцоў, падзеленых на тры роты. Хаваліся ў лесе, у спецыяльна пабудаваных бункерах-зямлянках. Сітуацыя з правіянтам пагаршалася з кожным днём, што прымушала нападаць на крамы і рабаваць мясцовых жыхароў. На рахунку партызан Мячыслава Нядзінскага ў 1945 годзе — забойствы намесніка камандзіра контрвыведкі 87-га пamежнага палка Аляксандрава, двух вайсковых пракурораў, начальніка турмы ў Скідзелі Рыгора Дземчанкі. Увесну 1946 года акаўцы забілі начальніка раённага аддзялення міліцыі Гродна капітана Зміцера Кузняцова. 5 кастрычніка 1947 года ў вёсцы Збляны забілі сям'ю старшыні калгаса. Усяго за тры гады сваёй дзейнасці ахвярамі атрада пад камандаваннем Нядзінскага стала каля 100 савецкіх вайскоўцаў і супрацоўнікаў дзяржаўнага апарата.

У студзені 1948 года МДБ выйшла на іх след, аднак акаўцам удалося сысці ад пагоні. Вясной 1948 года савецкім спецорганам удалося затрымаць каля 30 сувязных «Марскога». У адказ акаўцы ажыццявілі напады на некалькі крам і знішчылі абсталяванне ў адным з калгасаў. Усе гэтыя акцыі суправаджаліся забойствамі як «савецкага актыву», так і мірных жыхароў. Толькі ў маі спецгрупе МДБ, якая прыбыла з Мінска, удалося высачыць групу «Марскога» і ў выніку крывавага бою забіць яе камандзіра. Падчас гэтай аперацыі атрад унутраных войскаў не панёс страт. Трафеямі сталі два кулямёты, тры савецкія і два нямецкія аўтаматы, пяць вінтовак і шэсць пісталетаў.



Афіцэры унутраных войскаў, заходнія абласці БССР, 1947 год

## Праваслаўныя акаўцы

Летам 1945 года групоўкі АК «Шчучын» і «Ліда» аб'ядналіся ў структуру пад назвай «Вобласць 49/67», якой спачатку камандаваў сяржант Анатоль Урбановіч, а пасля яго смерці падпаручнік Анатоль Радзівонік (псеўданімы «Олех», «Бацька»). Ён, як і Мячыслаў Нядзінскі, выступіў супраць эвакуацыі падраздзяленняў Арміі Краёвай за лінію Керзона і быў прыхільнікам барацьбы за Рэч Паспалітую ў межах да верасня 1939 года.

Нарадзіўся Анатоль Урбановіч у 1916 годзе ў расійскім Бранску. У міжваенны час працаваў вясковым настаўнікам. Падчас Другой сусветнай вайны камандаваў атрадам АК на Шчучыншчыне і Навагрудчыне. У канцы 1944 года разам са сваімі людзьмі «Олех» вярнуўся ў ваколіцы Ішчолнян. Пад камандаваннем былога настаўніка знаходзілася каля 100 байцоў, прычым значная колькасць з іх былі праваслаўнымі. Яны нават выдавалі падпольную газету «Польскі свет».

У верасні 1945 года ў пошуках гэтага атрада ўдзельнічала тры палкі ўнутраных войскаў НКУС, аднак безвынікова. У студзені 1946 года ў вёсцы Дуброўніца ля Навагрудка група Анатоля Радзівоніка забіла оперупаўнаважанага міліцыі. У маі іх ахвярай стаў падатковы інспектар, у чэрвені — былы жаўнер Чырвонай Арміі, які пасля дэмабілізацыі вярнуўся дадому. 12 лютага 1947 года людзі «Олеха» забілі 9 чалавек, якіх абвінавацілі ў супрацоўніцтве з савецкай уладай. На працягу 1948 года акаўцы напалі на некалькі калгасаў, у тым ліку і на ўзорны імя Сталіна ў Кульбачыне бліз Ліды.

11 мая 1949 года атрад «Олеха» быў аточаны ля вёскі Рачкоўшчына часткамі 284-га палка ўнутраных войскаў. Падчас прарыву амаль уся група загінула. Сам камандзір спрабаваў уратавацца, выдаючы сябе за мясцовага селяніна. Але не атрымалася. Падчас затрымання «Олех» адстрэльваўся з двух пісталетаў і быў забіты. У палон трапіла тры чалавекі. Пазней усе яны атрымалі па 25 гадоў пазбаўлення волі.

27 жніўня 1949 года часткі МДБ заблакавалі і знішчылі атрад пад камандаваннем «Белавуса». На ліку апошняга была спаленая ў 1948 годзе ў вёсцы Табола Лідскага раёна спажывецкая крама і забітая сям'я Міхаловічаў, якую пакаралі за тое, што яны ўступілі ў калгас.

17 студзеня 1950 года ля вёскі Чырвонае быў знішчаны атрад Юзафа Стасевіча (псеўданім «Самотны»). На пачатку 1951 года была ліквідавана група Яна Ланеўскага, на ліку якой было некалькі нападаў на крамы. У красавіку таго ж года ў лесе ля вёскі Верхаполь была знішчана група Ларыёна Песцюка. У 1945 годзе акаўцы з гэтага атрада забілі 6 сялян у вёсцы Пшэвалка, а праз тры гады ў вёсцы Зарыца расправіліся з 12 яе жыхарамі.

У сакавіку 1951 года МДБ знішчыла атрад Арміі Краёвай, які дзейнічаў на мяжы Пінскай і Баранавіцкай абласцей. На яго чале стаяў чалавек, які да 1944 года служыў у 1-й польскай дывізіі імя Тадэвуша Касцюшкі. Пазней трапіў у нямецкі палон, быў вызвалены хаўруснікамі і залічаны ў склад Арміі Андэрса, адкуль, з выведвальнымі мэтамі быў накіраваны ў заходнюю частку БССР. Паводле архіўных дакументаў савецкіх спецыяльных органаў, апошнія «бандпраявы» польскіх «лясных братоў» былі заўважаны ў 1953 годзе, аднак яны ўжо не насілі арганізаваны характар.

Паводле справаздач МДБ, у перыяд з 1944 па 1947 гады было падполле арганізавала 575 нападаў і 39 дыверсій, пры гэтым загінулі 96 супрацоўнікаў міліцыі і МДБ, 107 чырвонаармейцаў, 290 партыйных актывістаў і 1031 грамадзянская асоба. У перыяд з 1947 па 1953 гады на тэрыторыі заходніх абласцей БССР было знішчана 161 і ўзята ў палон 465 удзельнікаў акаўскіх фарміраванняў. Акрамя гэтага, больш за дзве тысячы жыхароў Заходняй Беларусі было асуджана за пасобніцтва на 25 гадоў заключэння ў сібірскіх лагерах. У 1970-я гады толькі адзінкі з іх вярнуліся ў Беларусь.

# Лятаючы рыцар Грамады

Сяргей ЧЫГРЫН

**25 мая спаўняецца 110 гадоў з дня нараджэння дзеяча нацыянальна-вызваленчага руху ў Заходняй Беларусі і беларускай эміграцыі, журналіста, паэта і выдаўца Сяргея Хмары (сапраўднае прозвішча Сяргей Сіняк).**

Пра Сяргея Хмару ў савецкім друку пісалася ўсё толькі адмоўнае. І толькі ў сакавіку 1991 года мне ўдалося надрукаваць у тыднёвіку «Літаратура і мастацтва» невялікі артыкул пра гэтага своеасаблівага чалавека.

## Трагічны лёс сяброў

У канцы 1930-х — пачатку 1940-х гадоў у Слоніме іх усе добра ведалі. Яны пісалі вершы, выступалі на літаратурных вечарах, сустрэчах, друкаваліся ў мясцовай і віленскай прэсе. Гэта былі Сяргей Хмара, Анатоль Іверс і Сяргей Новік-Пяюн. Іх аб'ядноўвала любоў да свайго краю, да роднай мовы, на якой яны паўсюдна размаўлялі.

Пры паляках два Сяргеі і Анатоль былі пад наглядам польскай паліцыі, пасля 1939 года — пад пільным вокам НКУС, у гады вайны — страх быў і перад немцамі, і перад савецкімі партызанамі. Менавіта вайна скразною лініяй прайшла праз лёс гэтых хлопцаў, яна іх разлучыла назаўсёды.

Сяргею Хмары ўдалося ўцячы на Захад. Сяргей Новік-Пяюн у снежні 1944 годзе быў арыштаваны органамі НКУС, а праз год адпраўлены на 10 гадоў на Калыму. Анатоля Іверса арышты мінулі, хаця немцы расстралялі ягоную жонку і бацьку. А сам паэт, жывучы ў Слоніме, да самай смерці насіў кляймо «нацыяналіста». Пасля вайны, як пісаў Васіль Быкаў у сваёй кнізе «Доўгая дарога дадому», Анатоль Іверс «быў звольнены з працы, выключаны з СП і пятнаццаць гадоў прарабіў на смалакурні ў лягсгасе».

Мне пашанцавала ў жыцці з гэтымі людзьмі быць добра знаёмым, шмат гадоў сябраваць. Яны распавядалі мне пра сваё жыццё-быццё, найперш пра акупаваны немцамі Слонім. І што дзіўна, кожны з іх у сваім трагічным лёсе абвінавачваў сяброў. Адышлі на той свет, але так і не памірыліся. Хаця Сяргей Хмара гэтага хацеў, часам дасылаў ім свае газеты і часопісы. Але хлопцы маўчалі. Хто з іх у чым быў вінаваты — цяжка судзіць.

І ўсё ж самым неразгаданым, розным і супярэчлівым быў у жыцці і застаецца ў гісторыі беларускай літаратуры і гісторыі нацыянальнага руху Сяргей Хмара-Сіняк. Нават месца яго нараджэння падаецца па-рознаму. Адны выдаўцы пісалі, што ён нарадзіўся ў Пінску, другія — у Адэсе, трэція — у Слоніме. Ды і сам ён паведамляе ў сваёй аўтабіяграфіі, што нарадзіўся ў Адэсе.

А на самай справе Сяргей Сіняк нарадзіўся ў вёсцы Казлоўшчына былога Слонімскага павета (цяпер Дзятлаўскі раён) 25 мая 1905 года. Калі яму споўніўся год, бацькі ў пошуках працы выехалі на Украіну, пасля — у Варшаву, а потым, калі пачалася Першая сусветная вайна, жылі ў Казані, Растове-на-Доне і ў Варонежскай губерні.

## Бунтар

У 1918 годзе пры нявысветленых абставінах загінуў бацька. Сяргей з маці і з малодшаю сястрою вярнуліся ў родную вёску. Вучыцца хлопчыку не было за што. Таму, пасля пачатковай школы, ён займаўся самаадукацыяй: шмат чытаў па-руску, па-беларуску і па-польску, асабліва зачытваўся раманамі Генрыка Сянкевіча.

І працаваў: пастухом, лесарубам, землякопам, агароднікам, падзёншчыкам у маёнтку, будаўніком... На працы заўсёды дамагаўся справядлівасці. Аднойчы нават запусціў каменем у панскага аканома за тое, што няправільна і мала налічылі заробак. Аканом выгнаў яго з працы і даў мянушку «бунтар». Пасля яго выганялі з будаўніцтва дарогі за арганізаваны страйк, з маёнтку, дзе працаваў касцом, з іншых месцаў.

У пачатку 1920-х гадоў Сяргей Сіняк наладзіў кантакты з сябрамі Беларускай Народнай Рэспублікі, з рознымі адказнымі заданнямі ездзіў у Варшаву, Вільню, Слонім. Знаёміцца з беларускімі вайскоўцамі, з прадстаўнікамі творчай інтэлігенцыі — Рамуальдам Зямкевічам, Гальяшом Леўчыкам, Сымонам Рак-Міхайлоўскім, Аляксандрам Уласавым. Стаў адным з арганізатараў Таварыства Беларускай Школы (ТБШ), арганізаваў 12 беларускіх школ. У Брэсцкім абласным архіве захоўваецца пасведчанне на імя Сяргея Сіняка, сябра ТБШ.

У сярэдзіне 1920-х гадоў Сяргей Сіняк уступіў у Беларускую сялянска-работніцкую Грамаду. На Слонімшчыне ён арганізаваў 32 гурткі Грамады, якія налічвалі каля трох тысяч чалавек.

У 1930 годзе Сяргея Хмару выбралі сакратаром пасольскага клуба «Змаганне» ў Пінску, ён спрабаваў закласці беларускую гімназію і выдаваць часопіс. Праз год Сяргей ужо працаваў інструктарам Галоўнай управы ТБШ у Вільні, а яшчэ праз год яго арыштавала дэфензіва, і разам з Браніславам Тарашкевічам адправілі ў турму.

У час працэсу Грамады польскі пракурор-абвінаваўца назваў Сяргея Сіняка «лятаючым рыцарам Грамады». Наогул, Сяргей пры паляках, пры саветах і пры немцах за сваю актыўную беларускую палітычную і творчую дзейнасць адсядзеў каля 11 гадоў у турмах. У сваёй аўтабіяграфіі (зборнік «Мы») ён пісаў: «Мае школы — Лукішкі, турмы ў Слоніме, Гародні, Пінску, Берасці, канцэнтрацыйны лагер Картуз-Бяроза і шмат іншых».


Сяргей Хмара

Пра яго актыўнасць і смеласць у Заходняй Беларусі паведамляла нават ТАСС. Гэтае паведамленне апублікавалі ўсе газеты СССР. «Слоним (Западная Белоруссия). 13 октября. Заместителем начальника городского отряда рабочей гвардии Слонима работает широко известный в Западной Белоруссии молодой, талантливый поэт Сергей Хмара. С оружием в руках он охраняет свой город и организует борьбу с притаившимся остатками офицерских бандитских шаек. До прихода в Слоним Красной Армии поэт находился в концентрационном лагере Картуз-Береза. В польских тюрмах, казематах и лагерях он провел 6 лет. В своих произведениях Сергей Хмара писал о тяжелой доле угнетавшихся панами хлеборобов Западной Белоруссии и выражал уверенность в том, что скоро настанут времена, когда крестьяне будут свободными и счастливыми. Сбылись слова поэта, эти времена настали», — пісала газета «Социалистическая Якутия» 17 кастрычніка 1939 года.

Са зброяй у руках Сяргей Сіняк не ваяваў, а вось пяром валодаў добра. Першы надрукаваны верш з'явіўся ў газеце «Беларуская крыніца» ў 1925 годзе. Ён меў назву «Годзі, мы доўга цярпелі, мы доўга хадзілі ў ярме». А праз тры гады паэты і празаікі Заходняй Беларусі выдаюць у Вільні зборнік «Рунь веснаходу», дзе побач з вершамі Хведара Ільяшэвіча, Наталлі Арсенневай, Міхася Васілька, Яўгена Бартуля і іншых аўтараў надрукаваны і творы Сяргея Хмары-Сіняка.


BIELARUS
БЕЛАРУСЬ
БЕЛАРУСКІ ГОЛАС
Established in 1949.
BYELORUSSIAN VOICE LA VOIX BIELORUSIENNE
№ 311 Верасень 1983 Toronto, Ontario, September 1983 Vol. 34/31 № 311

У ГАДАВІНУ ГАЛАДАМОРУ НА УКРАІНЕ ВЫКЛІКАНАГА КАМУНІСТЫЧНАЙ УЛАДАЙ

8-мітысячная дэманстрацыя ў Таронце. Сымбалічная труна ў памяць 7-мі мільёнаў памерлых і сьцягі паняволеных народаў, разам з Беларускім Камітэту Вольнай Беларусі.

«УДАСКАНАЛЕНЬНЕ»

Міністар Шматкультурнасьці падаў да ведама, што Фэдэральная Рада Шматкультурнасьці будзе скарача...

ШМАТКУЛЬТУРНЫ ДЗЕНЬ НА ВЫСТАВЕ

28-га жнівеня адбыўся на Усеканадыйскай Нацыянальнай Выставе ў Таронце — Шматкультурны Дзень, які быў пасьвячаны цалікам культурам этнічных групаў Канады. Цэлы дзень на розных сцэнах Выстаўкі адбываліся выступы этнічнае самадзейнасьці. Дзесяткі хораў, танцавальных групаў, аркестраў знаёміла сабраных з сваім народным мастацтвам.

З нагоды Дня Шматкультур'я Дырэкцыя Выставы і Міністар Грамадзянства і Культуры Антэрыя прымалі прадстаўнікоў этнічных групаў і прэсы адумысным абедам, на якім прысутнічала больш 300 гасьцёў. Галоўным...

FIGHTERS FOR PEACE AND FREEDOM!

Do not allow the nuclear holocaust that hangs over us all! Put a stop to all wars on our world, including those waged by totalitarian regimes against their own people! Put an end to persecution and imprisonment for reasons of race and nationality, for political convictions and religious beliefs!

We have but one alternative: peace and freedom for all nations. Not tomorrow, nor in ten or fifty years, but today.

Demand the withdrawal of Soviet troops from Afghanistan!

Demand freedom for the Polish people!

Demand that all political prisoners — be released from Soviet prisons, concentration camps and exile!

Seek the release of imprisoned Soviet human rights activists!

The release of ALL political prisoners in the U.S.S.R. and all totalitarian countries is vital if we are to have understanding among nations, freedom and independence for all peoples!

А вось яго першы паэтычны зборнік «Бунтарнае» і кніга прозы «Шляхам барацьбы» загінулі падчас ліквідацыі выдавецтва «Рунь». Але ў 1939 годзе першая кніга вершаў «Жураўліным шляхам» Сяргея Сіняка пад псеўданімам Хмара ўсё ж пабачыла свет у Вільні.

## Арышт, воля і эміграцыя

У 1937 годзе Сяргей Сіняк у Дзятлаве арганізаваў літаратурную сустань «Маладая Ускалось». Планаваў разам са сваімі аднагодкамі і старэйшым слонімскім паэтам Гальяшом Леўчыкам выдаваць аднайменны літаратурны часопіс. Але палякі не дазволілі.

Пасля прыходу Чырвонай Арміі ў Заходнюю Беларусь, Сяргей Хмара жыў у Слоніме. Праз два тыдні яго арыштавалі і пасадзілі ў мінскую турму, а пасля перавялі ў Чэрвень. З пачаткам вайны арыштаваных з Чэрвеня пагналі пехатою ў Магілёў. Па дарозе Сяргей змог уцячы і вярнуцца ў акупаваны немцамі Слонім. Прыдбаўшы невялікую кніжную краму, ён прадаваў беларускія часопісы, газеты і кнігі, прымаў удзел у выданні газеты «Слонімскі кур'ер», выступаў на раённым радыё.

Акрамя гэтага арганізаваў брыгаду Беларускай самапомачы. Але пасля таго, як брыгада адмовілася ўдзельнічаць у рабаваннях гета, яна была немцамі ліквідавана, а Сяргея зноў пасадзілі ў турму. І толькі дзякуючы намаганням сяброў праз пэўны час ён быў вызвалены.




Сапраўды, меў рацыю Юрка Віцьбіч, калі казаў, што «ўсялякі без вылучэння акупант Беларусі (палях, расеец, немец) саджаў Сяргея Хмару за краты, а таму ён больш за іншых мае права пісаць:

*Усцяж — Беларусь!*
*Беларусь — на вуснох,*
*У сэрцы ж —*
*Чорная здрада!..»*

У 1944 годзе Сяргей Сіняк едзе ў Германію, баючыся зноў трапіць у засценкі НКУС. Спачатку працаваў дырэктарам Беларускага інфармацыйнага бюро, а пасля рэдактарам газеты «Голас беларусаў». Ужо тады ён пачаў адраджаць літаратурную сустань, але на гэты раз не маладой, а «Баявой Ускалосі» са знакам «Двупагоняй» — гэта значыць з абаронай Беларусі і з Захаду, і з Усходу. Па-ранейшаму пісаў вершы і выдаў свой другі зборнік паэзіі «Мы». З Германіі яго шлях ляжаў у Канаду ў Таронта, дзе Сяргей Хмара і пражыў усё сваё жыццё.

Займаўся выдавецкай дзейнасцю. Выдаў там 18 нумароў часопіса «Баявая Ускалось», а таксама каля 370 нумароў газеты «Беларускі голас». Апошнія два нумары выйшлі з друку пад назваю «Водгаласы». Усе — за асабістых кошт. У іх паведамлялася пра жыццё на Беларусі, пра справы беларускай дыяспары на эміграцыі, друкаваліся вершы беларускіх паэтаў, гістарычныя матэрыялы.

Ён любіў і паважаў, крытыкаваў і зласлаў на прадстаўнікоў БНР і БЦР, але сам ад іх заставаўся ўбаку. Ён быў прыхільнікам «трэцяй сілы» на эміграцыі. І нам сёння трэба прымаць Сяргея Хмару такім, якім ён быў.

Не стала Сяргея Хмары-Сіняка 4 верасня 1992 года. На жаль, беларускі друк пра гэта не паведаміў. А дзясяткі замежных часопісаў і газет змясцілі на сваіх старонках развітальныя словы. Вось што напісала, напрыклад, украінская газета «Новий шлях» (Канада): «Сяргей Сіняк народився 87 років (і три місяці) тому в Білорусії, пережив царя, революцію, дві світові війни, табори, еміграцію, і розвал комуністичної імперії. І тепер, власне тепер він був потрібний своїй Батьківщині, але — Бог рішив інакше...».

***

У 2009 годзе мне ўдалося сабраць лепшыя творы Сяргея Хмары і выдаць асобнай кніжкай пад назвай «Рабінавы хмель». Фундатарам кнігі выступіла яго дачка Магдалена Сіняк, якая жыве ў Таронта і працуе на Канадскім тэлебачанні. У 2008 годзе яна ўпершыню наведала Беларусь і радзіму бацькі, пабывала ў вёсцы Казлоўшчына Дзятлаўскага раёна, дзе бацька нарадзіўся. Магдалена Сіняк выдатна размаўляе па-беларуску, а таксама шчыра беражэ пра яго памяць і любіць Беларусь, а таксама спадзяецца, што беларусы будуць жыць багата і шчасліва. За гэта ўсё жыццё змагаўся яе бацька.


Магдалена Сіняк упершыню наведала Беларусь і бацькаву радзіму, лета 2008 г.






Фота аўтара

# Падуя. Шляхам Скарыны

Алесь КІРКЕВІЧ

**Працяг. Пачатак у № 19**

**Раніцай едзем у Падую, то бок яшчэ вышэй, на поўнач. Рэгіяналізм у Італіі — не пустыя словы. Гэта і мова, і звычаі, і нават знешнасць. Паўночных італійцаў зрэдку адрозніш ад французаў альбо швейцарцаў. Вінная культура значна больш выразная на поўдні, у адрозненні ад «піўной» поўначы. Зрэшты, піўная культура ў Італіі — з'ява хутчэй новая, наднацыянальная, накінутая міжнароднай моладзевай культурай.**

На чыгуначным вакзале сустракаемся з сябрамі з грэка-каталіцкага хору «Прасфара», якія прыехалі на парафіяльнае свята праспяваць у касцёле. Хлопцы і дзяўчаты тут ужо добры тыдзень: трапілі нават на вяселле да беларуса, які ажаніўся тут… з румынкай. Звычайная для Італіі гісторыя.

Наогул, хто такія беларусы на Апенінах? Гістарычнай дыяспары, як у Нямеччыне, Вялікабрытаніі ці Штатах, тут не склалася. Калі не лічыць, канешне, з дзясятак жаўнераў арміі Андэрса, якія пабралі сабе італьянак пасля вайны. Выезд у Італію стаў масавым толькі ў 90-я гады, калі беларускія жанчынкі падаліся шукаць тут «сапраўдных італьянцаў» альбо даглядаць іх састарэлых сваякоў.

Пры гэтым самым вядомым беларусам, які засвяціўся ў краіне аліваў і чырвонага віна, застаецца Францішак Скарына, які акурат навучаўся ў Падуі. Будынак Падуанскага ўніверсітэта лёгка абмінуць падчас агульнай гарадской экскурсіі і цяжка забыць, калі ўсё ж такі патрапіш у сярэдзіну. Скарынава дошка, дарэчы, тут жа, за вуглом. На ёй першадрукар выяўлены маладым хлоцам з валасамі да плячэй — такі сабе хіпі. Ва ўсялякім разе, не суворы дзядзька з вусамі, як у Шаўчэнкі, якім яго найчасцей бачыш у Беларусі.

Сцены галерэяў унутранага дворыку ўніверсітэта аздобленыя сотнямі гербаў і партрэтаў навучэнцаў элітнага ВНУ. Гэта — залаты капітал, напрацаваны стагоддзямі, які не заменіць аніякі ўніверсітэцкі рэйтынг.

«Універсітэт моцна падтрымлівалі ўлады за часамі Мусаліні, — тлумачыць наш экскурсавод у Падуі, Ларэнца, які няблага ведае рускую мову, — таму частка роспісаў і скульптураў, якія нагадваюць сац-арт, належаць да міжваеннага перыяду».

Дарэчы, вядомы партрэт Скарыны ў «Залі сарака» — таксама часоў Дучэ. Тут асветнік выяўлены надзвычай нетыпова: у доўгай мантыі, у профіль, без вусоў, ды яшчэ з залысінамі, як у агента Сміта з «Матрыцы». Поруч са Скарынам — партрэт Пятра Поснікава — першага расейца, які стаўся доктарам філасофіі і медыцыны. Абодва падпісаныя «Russo», але Скарына скончыў універсітэт у 1512-м, а Поснікаў — у 1694-м, толькі праз 200 гадоў: адчуйце, як кажуць, розніцу.

Тут жа, толькі ніжэй шэрагам, партрэт Стэфан Баторый з каронай у руцэ. Цікава, што вугорца Баторыя гісторыкі часцяком памылкова малююць дзікуном, які любіў толькі вайну і паляванні… Тут жа, у Падуі, будучы кароль Стэфан назіраў за ўскрыццём чалавека ў анатамічным тэатры, не здагадваючыся, што ў Горадні ў 1586-м над яго целам будзе праведзенае першае ўскрыццё ва Усходняй Еўропе.

Драўляны анатамічны тэатр, дарэчы, цалкам захаваўся. Кажуць, што высокія порцікі на ўзроўнях былі зробленыя адмыслова, каб самлеўшыя студэнты не падалі ўніз. А ўскрыццё, што цікава, праводзіў не прафесар, які сядзеў побач на высокім крэсле, але асістэнты. Справа тут не ў іерархіі, а ў пагрозе падхапіць ад трупа хваробу. У суседняй медыцынскай залі выстаўлены шэраг чарапоў прафесараў медыцыны, якія пагадзіліся аддаць свае целы для вопытаў: такія вось пакутнікі за навуку.

Акрамя ўніверсітэту, кожны, хто бывае ў Падуі, абавязаны наведаць базіліку св. Антонія. Велічны раманскі храм з цалкам усходнімі купаламі ды барочнымі алтарамі ўсярэдзіне — сапраўдная перліна італійскай Поўначы. Комплекс базілікі — гэта горад у горадзе, з капліцамі, спавядальнямі, сістэмай унутраных садоў ды царкоўных крамаў. Сярод алтароў, дарэчы, ёсць і «польскі»: на ім уважлівы глядач знойдзе выявы тарчаў з пагоняй ды калумнамі, якія 500 гадоў таму, імаверна, грэлі сэрца і маладому Скарыну з Полацка.

# Беларускія літаратары акупавалі Варшаву

Новы ЧАС

**На некалькі дзён Варшава сталася папросту літаратурнай Меккай для беларускіх пісьменнікаў.**




13 мая ў Доме сустрэч з Гісторыяй адбылася творчая вечарына і дыскусія з фіналістамі Літаратурнага Конкурсу імя Рышарда Капусцінскага за найлепшы публіцыстычны твор 2014 года. Сярод фіналістак конкурсу прысутнічала беларуска Святлана Алексіевіч, якая, зрэшты і сталася адной з пераможцаў за кнігу «Час сэканд-хэнд» у перакладзе на польскую. Галоўная цырымонія ўзнагароджання лаўрэатаў адбылася вечарам 14 мая ў Драматычным Тэатры Палаца Культуры і Навукі, у імпрэзе ўзялі ўдзел мэр горада і галоўны рэдактар «Газеты Выборчай» Адам Міхнік. Арганізатар — Фонд Сусветнага Літаратурнага Конкурсу імя Рышарда Капусцінскага. У той самы дзень, 14 мая, у Беларускім Доме ў Варшаве прайшла прэзентацыя дзвюх новых кніг гродзенскага пісьменніка і журналіста Алеся Аркуша — раман «Мясцовы час» і выбранае паэзіі «Песня ля Замкавай гары». Вядоўцам імпрэзы стаўся беластоцкі празаік Міхась Андрасюк.

А 14–17 мая беларускія літаратары выступалі на шведскім стэндзе (Літаратурнае падарожжа Беларусь — Швецыя) на VI Міжнародным Варшаўскім кніжным кірмашы. Адбыліся сустрэчы з варшаўскай беларускай пісьменніцай Святланай Курс, пісьменнікамі з Мінску Ігарам Бабковым і Аленай Казловай (адпаведна, 16 і 17 мая).

Усе беларускія імпрэзы на стэндзе Беларусь — Швецыя курыравала Марыя Сёдэрберг, вядомая беларускаму культурніцкаму колу апантанай беларушчынай, шведка, якая па ўласнай ініцыятыве арганізавала і гэтым разам магчымасць стацца пачутымі беларускім пісьменнікам на Міжнароднай кніжнай выставе. З беларускага боку на выставе прысутнічалі прадстаўнікі выдавецтва «Логвінаў», «Books from Belarus», а таксама яшчэ некалькі незалежных выданняў.

У прыватнасці, 16 мая адбыўся першы пробны літаратурны семінар на беларускай мове ў гісторыі кірмашу. Яго ўдзельнікамі сталіся літаратарка, тэлевядоўца Валярына Кустава з Мінску і паэт, перакладчык Дзмітры Плакс са Стакгольму. Кустава і Плакс чыталі свае старыя і новыя творы, разважалі пра адказнасць за словы ў сваіх творах, аказалі на пытанні слухачоў, адносна практычнага перакладу і моўнай механікі.

Пасля аўтары камунікавалі з наведнікамі кірмашу непасрэдна на стэндзе. Сотні палякаў і беларусаў сталі наведнікамі беларуска-шведскага стэнду.

Трэба адзначыць, што стэнды з беларускімі аўтарамі было знайсці няпроста, як, зрэшты, і іншыя праз неверагодны наплыў жадаючых набыць літаратурныя навінкі варшавян. У наступным годзе раім усім выбірацца на выступы любімых аўтараў загадзя і не паленавацца спраўджваць у сеціве план размяшчэння стэнду.

Новы ЧАС
Агульнапалітычная штотыднёвая газета
novychas.info

Выдаецца з сакавіка 2002 г.
Галоўны рэдактар
**Кароль Аляксей Сцяпанавіч**

**ЗАРЭГІСТРАВАНА** Міністэрствам інфармацыі Рэспублікі Беларусь. Пасведчанне аб дзяржаўнай рэгістрацыі № 206 ад 20 ліпеня 2009.

**ЗАСНАВАЛЬНІК** Мінская гарадская арганізацыя ГА ТБМ імя Ф.Скарыны. Адрас. 220005, г. Мінск, вул. Румянцава, 13. Тэл. (+375 17) 284 85 11.

**ВЫДАВЕЦ** Выдавецкае ўнітарнае прадпрыемства «Час навінаў». Пасведчанне ад 25.04.2014 г.

**АДРАС РЭДАКЦЫІ І ВЫДАЎЦА**
220113, г. Мінск, вул. Мележа, 1–1234.
Тэл. +375 29 986-38-05, +375 17 268-52-81
novychas@gmail.com; novychas.info

**НАДРУКАВАНА** ў друкарні УП «Плутас-Маркет». г. Мінск, вул. Халмагорская, 59 А. Замова № 673

Падпісана да друку 22. 05.2015. 8.00.
Наклад 7000 асобнікаў. Кошт свабодны.